# ПАГОНЯ

Чацвер
8 чэрвеня 2000 г.
№ 20 (467)
Кошт 70 рублёў

## Работнікі страйкуюць, гарэлка даражэе

**У панядзелак на Гарадзенскім лікёра-гарэлачным заводзе адбыўся несанкцыянаваны страйк.**

Ініцыятарам акцыі стаў прафсаюзны камітэт завода. У гэты дзень рабочыя адмовіліся працаваць у знак пратэсту супраць катастрафічнага падзення заробку. Як сказаў адзін з работнікаў завода, які пажадаў застацца інкогніта: «Мы адмовіліся ад работы з-за таго, што з такой зарплатай нам не хапае грошай на ежу. Мы не можам працаваць фізічна. Нас задушылі падаткамі. Мы хочам, каб нас пачулі наверсе». У панядзелак адбылася сустрэча рабочых з адміністрацыяй, падчас якой кіраўнікі прафсаюзнага камітэта давалі сітуацыю да кіраўніцтва завода. У аўторак работа была ўзноўлена.

Канфлікт выглядае так: адпаведна калектыўнай дамове, заробная плата налічваецца з прыбытку ад рэалізацыі прадукцыі. З-за падвышэння з сакавіка гэтага года акцызнага збору да шасці еўра за літр спірту вытворчасць гарэлкі стала нерэнтабельнай. У дадатак з-за неплацежаздольнасці крамаў завод не разлічваецца з бюджэтам. Атрымаўся тупік: няма прыбытку - няма заробку. Калі ў лютым сярэдняя зарплата на заводзе была каля 80 тысяч, то за травень некаторыя работнікі атрымаюць па 25-30 тысяч рублёў.

Дырэктар лікёра-гарэлачнага завода Уладзімір Дубко згодны з тым, што сітуацыя патрабуе кардынальных зменаў: «Яшчэ ў лютым мы звярнуліся ў Дзяржкампрацы з прапановай падвысіць стаўку першага разраду. Але яны нічога не вырашаюць, трэба выходзіць на кіраўніцтва ўраду. Раз людзі пачалі выяўляць незадавальненне, я думаю, мы прыйдзем да вырашэння праблемы на вышэйшым узроўні. Пакуль жа я не магу гарантаваць падвышэння заробку».

У аўторак на нарадзе Саўміна ў Менску з удзелам кіраўніцтва Аблгароднінапрама было прынята рашэнне падвысіць адпускны кошт гарэлкі на 10 працэнтаў. Але на Гарадзенскім лікёра-гарэлачным заводзе лічаць, што гэта не выйсце. Цяпер на кожны зароблены рубель завод плаціць падаткаў 1,20 рубля. Каб выйсці «па нулях», трэба як мінімум зменшыць акцыз да пяці еўра.

Уладзімір Дубко сцвярджае, што кіраўніцтва завода будзе даводзіць наверх пра неабходнасць тэрміновага зніжэння падаткаў і падвышэння стаўкі першага разраду. А пакуль сітуацыя застаецца напружанай і цалкам магчыма падрыхтоўка новых акцыяў пратэсту.

**Алена Сіневіч**

## Мілінкевіч умацоўвае кантакты з Захадам

**З 21 па 31 траўня па запрашэнню Сакратарыята Еўрапейскага Саюза адбыўся візіт у Бельгію і Галандыю Старшыні Гарадзенскага абласнога грамадскага аб'яднання «Ратуша» і Старшыні Беларускай Асацыяцыі Рэсурсовых Цэнтраў Аляксандра Мілінкевіча.**

У час побыту ў Заходняй Еўропе А.Мілінкевіч меў сустрэчы з сябрамі Дэлегацыі Еўрапарламента па адносінах з Беларуссю, з кіраўнікамі Дэпартаментаў правоў чалавека, рэгіянальнай палітыкі, знешніх зносінаў, пашырэння Еўрасаюза, экалогіі, Еўракамісіі прадстаўнікамі міжнародных праваабарончых арганізацыяў «Хьюман Райтс Вотч», «Ліга правоў чалавека», «Эмністы Інтэрнэшнл», экспертамі праграмы «Тасіс» Еўрасаюза ды іншымі.

Падчас спатканняў былі абмеркаваныя пытанні сучаснай грамадска-палітычнай сітуацыі на Беларусі.

**Ул.інф.**




**9, 10 чэрвеня** - пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў, вецер паўночна-заходні, 5-10 м/с. Тэмпература паветра 9 чэрвеня - уначы +4...+9, удзень +18...+23; 10 чэрвеня - уначы +6...+11, удзень +22...+27.

## Чарговае папярэджанне ПАГОНІ ад Дзяржкамдруку

**5 чэрвеня першы намеснік старшыні Дзяржкамдруку Беларусі В.Глушакоў вынес ПАГОНІ папярэджанне. На думку Глушакова, ПАГОНЯ, якая змясціла аб'яву гарадзенскага Маладога Фронту наконт правядзення ім «Алімпіяды-2000», тым самым парушыла артыкул 5 Закона «Аб друку ды іншых сродках масавай інфармацыі».**




У афіцыйным папярэджанні, трэцім па ліку, якое ПАГОНЯ атрымала ад гэтага ведамства на працягу апошняга месяца, сказана літаральна наступнае: «Государственный комитет Республики Беларусь по печати, изучив опубликованное в газете ПАГОНЯ (N15 от 04.05.2000 г.) объявление гродненского Молодого Фронта «Алимпияда-2000» считает, что это представляет собой распространение информации от имени общественного объединения, не прошедшего в установленном порядке государственной регистрации.»

У сваю чаргу, мы таксама хацелі б вынесці чарговае папярэджанне на адрас Дзяржкамдруку. Па-першае, мы расцэньваем упартае нежаданне гэтай дзяржаўнай установы карыстацца беларускай мовай, як грэбаванне законамі і Канстытуцыяй Беларускай Дзяржавы і ігнараванне нашых законных правоў ды інтарэсаў. Па-другое. Спадар Глушакоў, годзе здзекавацца з рускай мовы! Мова Пушкіна і Буніна не заслугоўвае таго, каб яе выкарыстоўвалі, не зважаючы на граматыку, сінтаксіс і логіку!!

**Ул.інф.**

## Толькі 23 пуцёўкі на 1000 працоўных

**Адпачынак: дзе, як і на якую суму - самая актуальная тэма сёлета. Іншымі словамі, дзе і як можна атрымаць пуцёўку ў Дом адпачынку альбо санаторый. І як уладкаваць дзіця ў лагер, хаця б на адну змену. Пра гэта на прэс-канферэнцыі ў сераду, 7 чэрвеня, расказаў журналістам Іван Парасочка - начальнік абласнога ўпраўлення Рэспубліканскага Цэнтра па аздараўленню насельніцтва.**

Як высветлілася, першачарговыя групы людзей, якія маюць шанец атрымаць пуцёўкі, - гэта асобы, якія пацярпелі ад наступстваў Чарнобыля. Усяго іх па вобласці - 11 тысяч, і 8 тысяч з іх - дзеці. Акрамя таго, у нас 1,5 тысячы дзяцей-інвалідаў, якіх таксама абавязкова трэба забяспечыць ільготнымі пуцёўкамі.

Амаль усе зоны адпачынку знаходзяцца ў межах Беларусі. Хаця з'явілася магчымасць паехаць у Трускавец. Колькасць пуцёвак на Поўдзень (Крым) увесь час змяншаецца з-за немагчымасці канверсаваць валюту.

Поўны кошт пуцёвак складае прыкладна ад 95 тысяч (Парэчча) да 170 тысяч рублёў (Радон).

Цэнтр па аздараўленню размяркоўвае іх па цане ад 10 да 30 працэнтаў ад рэальнага кошту. Атрымаць іх здолеюць грамадзяне, якія працуюць на прадпрыемствах праз адпаведныя камісіі. Але шчаслiўцаў, якім пашанцуе атрымаць такую пуцёўку, ад усіх працоўных у вобласці людзей - толькі 2,3 працэнта.

Праблема летняга адпачынку дзяцей па-ранейшаму не змянілася. З 61,5 тысячы школьнікаў толькі 33 працэнты здолеюць з'ездзіць у лагер. Трыццаць сем лагераў могуць размясціць у адну змену не болей за 6,2 тысячы дзяцей.

Калі ў бацькоў ёсць грошы, яны могуць купіць пуцёўку адразу ў прадпрыемстваў-арганізатараў лагераў адпачынку, але ўжо за поўны кошт, г.зн. ад 60 да 80 тысяч рублёў у залежнасці ад умоваў.

Іншых варыянтаў у дзяржструктураў няма, як няма і ніякіх перспектываў на будучыню.

Калі вы не здолелі назапасіць хаця б пару соцень баксаў на паездку у Крым ці Балгарыю, калі няма бабулі, да якой можна адправіць дзіця, вам ізноў давядзецца адпачываць на дачным участку.

**Ніна Палуцкая**

## У «Паходні» пакажуць «Цэнзарскія нажніцы»

**15 чэрвеня ў грамадскім аб'яднанні «Паходня» адбудзецца сустрэча з гарадзенскім пісьменнікам Сяргеем Астраўцом. Ім будзе прадстаўлена ягоная новая кніга «Цэнзарскія нажніцы». Сяргей Астравец быў, дарэчы, адным з заснавальнікаў «Паходні».**

«Цэнзарскія нажніцы» - гэта том, аб'ёмам у 545 старонак. У кнізе 62 аповеды, напісаныя аўтарам у Гродне з 1984 да 1999 года. Ён пісаў іх на начных дзяжурствах у друкарні, у рэдакцыйных кабінетах і ў маленькай кватэрцы у Фартах. Атрымалася вельмі гарадзенская кніга.

«Цэнзарскія нажніцы» будзе магчымасць набыць. Іхні кошт - 2 тысячы рублёў. Чытачы змогуць задаць любыя пытанні пісьменніку і пачуць, як ствараласяя першая гарадзенская тоўстая кніга. С.Астравец прачытае таксама свае новыя апавяданні, апошняе з якіх было напісана 5 чэрвеня.

## «Наш горад»

**Зараз у Гродне паводле ініцыятывы мясцовых прадпрымальнікаў і гарадзенскай грамадскай жаночай арганізацыі «Крыніца Міласэрнасці» праводзіцца чарговы этап дабрачыннай акцыі «Наш горад».**

Як паведаміў старшыня аргкамітэта Валерый Леванеўскі, акцыя пачалася 25 траўня і працягнецца да 25 чэрвеня. Падчас яе ўжо сабрана шмат рэчаў, якія пачалі раздаваць тым, хто мае ў гэтым патрэбу. 31 траўня гарадзенскія прадпрымальнікі падаравалі мясцоваму Дзіцячаму дому 15 тартоў і невялікія сувеніры 14 імяннінікам ды іншым выхаванцам. А 1 чэрвеня больш як 100 дзяцей са шматдзетных і малазабяспечаных сем'яў пакаталіся за кошт гарадзенскіх прадпрымальнікаў на каруселях, схадзілі ў лялечны тэатр, атрымалі пачастункі.

Гарадзенкія прадпрымальнікі і мясцовае аддзяленне Беларускага Хельсінкскага камітэта прынялі рашэнне ўзяць пад поўную юрыдычную абарону матуляў і дзяцей з «Крыніцы Міласэрнасці». Прававая дапамога будзе аказвацца бясплатна.

**Алег Сакалоў**

Ф. РД-1 Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету / ~~часопіс~~ **63124** індэкс выдання

**"ПАГОНЯ"** (назва выдання) Колькасць камплектаў 1

На 2000 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | × | × | × | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА** на газету / ~~часопіс~~ **63124** індэкс выдання

**"ПАГОНЯ"** (назва выдання)

Кошт: падпіскі 1тыс. 200руб.; пераадрасоўкі ___ руб. ___ кап. Колькасць камплектаў 1

На 2000 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | × | × | × | | | |

(паштовы індэкс) (адрас)

(прозвішча, ініцыялы)

## Падпіска-2000

Апошнім часам ціск вертыкалі на ПАГОНЮ ўзмацніўся. Улада проста шалее ад неабходнасці суіснавання з намі. Таму час ад часу і падкідваюць розныя дробныя паскудствы. То газету своечасова ў кіёск не падвязуць, то «забудуцца» яе выкласці на прылавак...




Лепшым адказам на гэта можа стаць наша салідарнасць. Згуртуймася вакол ПАГОНІ! Калі мы будзем разам - нас не адолець!

Кошт падпіскі: на квартал - 1200 рублёў; на паўгода - 2400 рублёў;

Індэкс ведамаснай падпіскі-63348

Кошт ведамаснай падпіскі: на квартал - 3600 рублёў; на паўгода - 7200 рублёў.

# Беларусы не ўмеюць падаць сябе

**У газеце «Народная Воля» ад 31 траўня была надрукаваная прамова галоўнага дарадцы прэм'ер-міністра Польшчы па міжнародных пытаннях Ежы Марэка Навакоўскага, якую ён сказаў на беларуска-польскай канферэнцыі напрыканцы траўня ў горадзе Беластоку «Ад грамадства аўтарытарнага да грамадства дэмакратычнага». Меркаванні польскіх спецыялістаў у галіне міжнароднай палітыкі заўсёды з цікавасцю ўспрымаліся ў Беларусі - палякі, як ніхто іншы, здольныя зразумець наступствы нацыянальнага прыгнёту і цяжкасці барацьбы за свабоду, бо перажылі ўсё гэта на ўласным горкім досведзе. Пан Навакоўскі з'яўляецца вядомым і аўтарытэтным польскім праваабаронцам, некалькі разоў наведваў Беларусь, меў сустрэчы з нашымі палітыкамі. Тым большым было здзіўленне, якое ўзнікла пасля азнаямлення з разважаннямі паважанага польскага дзеяча.**

Разгледзім асноўныя тэзісы даклада. Галоўная прычына таго, чаму Еўропа мала цікавіцца лёсам Беларусі, лічыць Навакоўскі, гэта тое, што «Беларусь...не здолела даказаць еўрапейцам, што рэальна існуе як нацыя». Як паказвае гісторыя, Беларусь за апошнія сто гадоў паклала шмат намаганняў менавіта на тое, каб даказаць сваё існаванне. І ўвесь час трапляла на грубы і гвалтоўны супраціў з боку сваіх суседзяў. Пра імперскую палітыку Расеі цяпер усім добра вядома, ды шмат хто памятае і пра асіміляцыю «Крэсув Всходніх» за часамі другой Рэчы Паспалітай. Неяк нетактоўна ўпікаць беларусаў за тое, што ў сваёй барацьбе «за існаванне» з больш магутнымі і агрэсіўнымі суседзямі яны апынуліся на мяжы выжывання. Нам было б някепска пачуць пра маральны, хаця б, абавязак пераадолець нанесеную раней шкоду і крыўду, дапамагчы «даказаць еўрапейцам», што Беларусь - не міраж, бо палякі гэта ведаюць лепей, чым хто-небудзь у Старым Свеце.

Ад беларускай апазіцыі няма «яснага паслання», як трэба ставіцца еўрапейскай супольнасці да нашай краіны, працягвае пан Навакоўскі. Справа не ў яснасці пасланняў (хаця тут палякі сапраўдныя спецыялісты - за дзвесці гадоў пасля падзелу першай Рэчы Паспалітай яны напрактыкаваліся ў «пасланнях» на Захад). Справа ў тым, што скончылася халадная вайна. Захад дапамагаў «Салідарнасці» і апазіцыі камуністычнаму ўраду Польшчы не таму, што меў «яснае пасланне» ад Леха Валенсы і яговых паплечнікаў, а таму, што мусіў дзеля падрыву камунізму і экспансіі Савецкага Саюза падтрымліваць любую апазіцыю «імперыі зла», нават, калі яна складалася са жменькі дысідэнтаў-інтэлектуалаў. Сёння Захаду, уключаючы і Польшчу, не пагражаюць савецкія танкі і ракеты СС-20, тамтэйшыя палітыкі, СМІ, абывацелі не адчуваюць непасрэднай пагрозы свайму дабрабыту і ладу жыцця. Захад, уключаючы палякаў, засяродзіўся на ўнутраных праблемах, і гэты эгаізм з'яўляецца цалкам натуральным. Пагроза таталітарнай рэстаўрацыі на Усходзе пакуль выглядае занадта футурыстычнай, каб гэта ўсхвалявала большасць еўрапейскага грамадства. У гэтай сувязі мне прыгадваецца адно пытанне, зададзенае беларусам польскімі журналістамі ў тым жа Беластоку крыху раней: «Чым зацікавіць польскага абывацеля, каб ён прачытаў артыкул ці паглядзеў перадачу пра Беларусь?».

Сёння з Беларусі ідзе на Захад «пасланне» пра жаданне аб'яднацца з Расеяй, працягвае пан Навакоўскі. Няёмка нагадваць такому дасведчанаму чалавеку, як ён, прапісныя ісціны. Але варта задумацца, ад каго ідзе гэтае «пасланне». Бо яго пасылае сама Расея праз сваіх стаўленікаў у Беларусі, гэтаксама як раней пра жаданне жыць разам з Расеяй у «сацыялістычным лагеры» заяўлялі ўрады Польшчы, Чэхаславакіі, В'етнама, і нават левыя палітыкі Італіі, Францыі і г.д. Трэба слухаць не гэтыя інспіраваныя «пасланні», а сапраўдны голас беларускага народа, які рэпрэзентуюць прадстаўнікі беларускай апазіцыі.

Не такая ўжо Беларусь «маленькая краіна», як заявіў пан Навакоўскі. Беларусь мае некалькі важкіх козыраў: транзіт, вайсковую інфраструктуру, ёй належыць ключавая роля ў вызначэнні шляхоў развіцця «інтэграцыі» на постсавецкай прасторы. Адказная і дальнабачная агульнаеўрапейская палітыка не можа ігнараваць Беларусь, нават, калі б яе палітыкі і не валодалі мастацтвам складаць «ясныя пасланні». Так што справа не толькі ў недасведчанасці і неарганізаванасці беларускай апазіцыі, але і ў няздольнасці часткі (і то большай) еўрапейскіх палітыкаў ацаніць змены пасля распаду Савецкага Саюза і ролю кожнага «асколка» былой сусветнай камуністычнай сістэмы. Вось таму і атрымліваецца, як справядліва кажа пан Навакоўскі, што «толькі дзве дзяржавы ставяць у свеце пытанне пра незалежнасць Беларусі - гэта Польшча і Літва». За што вялікае дзякуй нашым добрым суседзям, але каму, як не ім разумець значэнне Беларусі ў геапалітычным раскладзе Еўропы.

Магчыма, што пан Навакоўскі пасля сустрэчаў з некаторымі дзеячамі апазіцыі вынес уражанне пра іх, як «пра неразвітых абарыгенаў» (цытата з прамовы). Што праўда, то праўда - некаторыя беларусы такія. А ў часы нацыянальнай знявагі і агульнага жабрацтва колькасць людзей «самотных, якія вечна канючаць» (цытата) павялічваецца. Магчыма, пану дарадцы не пашанцавала з сустрэчамі. Нічога, сучасныя беларускія экстраверты і халерыкі яшчэ пакажуць сябе Еўропе і асабіста пану дарадцы. Як паказалі сябе Пілсудскі, Міцкевіч, Касцюшка, Каліноўскі...

**Сяргей Самасей**




# Статкевіча пераабралі

**Старшынёй Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) зноў абраны Мікалай Статкевіч, які займае гэтую пасаду з 1995 года. За ягоную кандыдатуру прагаласавала пераважная большасць дэлегатаў IV з'езда партыі, які прайшоў 3-4 чэрвеня ў Менску.**

Дэлегаты з'езда таксама зацвердзілі папраўкі ў статут БСДП (НГ) і прынялі шэраг рэзалюцый па палітычнай і сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў краіне. Асноўнымі задачамі БСДП (НГ) на бліжэйшы перыяд, згодна з прынятымі на з'ездзе дакументамі, павінны стаць абарона незалежнасці і суверэнітэту краіны, а таксама эканамічных, сацыяльных, культурных, грамадскіх і палітычных правоў і свабод грамадзян, у тым ліку - права на правядзенне свабодных дэмакратычных выбараў цэнтральных і мясцовых органаў улады. У галіне міжнародных кантактаў БСДП (НГ) ставіць задачу забяспечыць свой сталы ўдзел у працы Савета Сацыялістычнага Інтэрнацыянала і ягонага Камітэта для Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.

Важнае месца на з'ездзе заняло абмеркаванне магчымасці ўдзелу БСДП (НГ) у маючых адбыцца парламенцкіх выбарах. Дэлегаты з'езда чарговы раз падкрэслілі, што ўмовы ўдзелу сацыял-дэмакратаў у выбарах застаюцца ранейшыя: доступ да дзяржаўных СМІ, пашырэнне паўнамоцтваў парламента, уключэнне прадстаўнікоў партый у склад выбарчых камісій усіх узроўняў. Аднак канчатковае рашэнне па дадзенаму пытанню адкладзена на больш позні тэрмін. Для гэтага Цэнтральнаму камітэту БСДП (НГ) было прадастаўлена права склікання ў выпадку неабходнасці другой сесіі з'езда. Як мяркуецца, гэта можа адбыцца ў другой палове ліпеня бягучага года.

**Юрый Пацёмкін**

# «Клімат даверу» не выклікаў даверу

**«Тактычным ходам» назваў ініцыятыву Аляксандра Лукашэнкі аб усталяванні ў Беларусі «перыяду даверу» на час арганізацыі і правядзення выбараў старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) Анатоль Лебедзька.**

Нагадаем, што аб усталяванні «перыяду даверу» кіраўнік дзяржавы заявіў 30 мая на сустрэчы з удзельнікамі дыялога грамадска-палітычных сіл. Узамен ён запатрабаваў ад апазіцыі ўзяць на сябе абавязацельствы ўстрымлівацца ад дзеянняў, у выніку якіх можа быць «парушаны закон і свядома нанесены ўрон знешнепалітычным і знешнеэканамічным інтарэсам нашай краіны».

«Гэта чарговая заява А.Лукашэнкі, якая не выклікае ў мяне аніякіх пачуццяў і эмоцый. Я зусім спакойна стаўлюся да гэтай ініцыятывы, таму што за ёю нічога не паследуе», - лічыць лідэр АГП.

«Калі які-небудзь сур'ёны палітык выступае з заявай, то да яе варта прыслухоўвацца, але калі з гэтым стаіць А.Лукашэнка, то варта ўспомніць што і калі ён выканаў са сваіх абяцанкаў». Так пракаменціраваў заяву кіраўніка дзяржавы намеснік старшыні Партыі БНФ Вячаслаў Сіўчык. Ён нагадаў, што абешчаны прэзідэнтам дыялог грамадска-палітычных сіл распачаўся з масавага арышту дэманстрантаў 25 сакавіка. «Можа быць, менавіта так А.Лукашэнка і разумее клімат даверу ў краіне?» - выказаў здагадку В.Сіўчык.

**Юрый Пацёмкін**

# Нас зноў абмінаюць. Цяпер у Любліне

**Міжнародная канферэнцыя пад назвай «Польшча - Усход. 2000» адбылася ў Любліне. Яе ўдзельнікамі былі прадстаўнікі ўрадавых і дзелавых колаў як гаспадароў, так і ўсходніх суседзяў Польшчы - Украіны, Літвы, Расеі. На жаль, выключэнне складала Беларусь, прадстаўленая толькі апазіцыяй і незалежнымі грамадскімі арганізацыямі. Толькі адзін дзень прысутнічаў на канферэнцыі саветнік беларускай амбасады ў Варшаве.**

Самаізаляцыя Беларусі вельмі прыкрая - і наогул, і ў гэтым канкрэтным выпадку. Бо размова ішла наконт пабудовы новай сістэмы гаспадарчых і гуманітарных сувязяў пасля ўваходу Польшчы ў Еўрапейскі саюз.

Урад у Варшаве даволі сур'ёзна рыхтаваўся да гэтага заходу. Ясна ўсведамляючы тыя прывілеі, якія абяцае Польшчы далучэнне да клуба багатых дэмакратычных дзяржаваў Еўропы, урад у той жа час жадае звесці да мінімума верагодныя на яе ўсходніх межах цяжкасці для развіцця гаспадарчых ды іншых сувязяў. «Мы не хочам, каб мяжа Еўропы праходзіла па Бугу,» - сказаў прэм'ер-міністр Польшчы Ежы Бузек падчас адкрыцця канферэнцыі. Гэтыя словы былі сустрэты апладысментамі.

Ежы Бузек выступаў перад прысутнымі ў зале Люблінскага замка на фоне велізарнага палатна Яна Мацейкі, дзе выяўлены вырашальны момант заключэння Люблінскай уніі 1569 года. Дух гісторыі лунаў у зале. Але гэтым разам прысутнічала толькі ўкраінская частка «амбасады Вялікага княства Літоўскага». Ды шматлікія прадстаўнікі Масквы, якія і выступалі ў далейшым галоўнымі апанентамі польскіх і ўкраінскіх прадстаўнікоў. Стваралася ўражанне, што гэтым разам умовы Люблінскай уніі абмяркоўваюцца з Расейскай Федэрацыяй.

Нядаўна прызначаны прэм'ер-міністр В.Ющанка паведаміў, што Вярхоўная рада прыняла праграму радыкальных рынкавых рэформаў. Гэта азначае, што Украіна зрабіла свой гістарычны выбар на карысць Еўропы. Чым тлумачыцца тое, што малады прэм'ер тут жа выляцеў у Варшаву. І тое, што польска-ўкраінскія і польска-расейскія адносіны былі ў цэнтры ўвагі канферэнцыі, калі абодва прэм'еры яе пакінулі.

Пасля ўваходу ў ЕС, Польшча павінна будзе выконваць у поўным аб'ёме Шэнгенскія пагадненні. Гэта азначае, што візавы рэжым на яе ўсходніх межах стане больш жорсткім. Каб яны не ператвараліся ў «жалезную заслону», плануецца адкрыць на Украіне і ў Расеі дастатковую колькасць консульстваў. Афармленне візаў не павінна займаць шмат часу, а самі візы плануецца зрабіць таннымі.

Пра Беларусь зноў гаворкі не было. Калі не лічыць заявы адстаўнога адміністратара замежных справаў Расейскай Федэрацыі наконт таго, што праз пяць-сем гадоў Беларусь і Расея будуць адной дзяржаваю.

І хаця гэтая заява прагучала з вуснаў неафіцыйнай асобы, яна даволі дакладна адлюстравала настрой маскоўскай дэлегацыі. Менавіта яна апаніравала прадстаўнікам беларускай апазіцыі на пасяджэнні канферэнцыі, якая была спецыяльна прысвечана сітуацыі ў Беларусі. Маскоўскія аналітыкі глыбока пераканаваныя, што пераважная большасць грамадзянаў Беларусі любяць А.Лукашэнку і гатовыя ў любы момант пераабраць яго на новы тэрмін. А таксама аднадушна выступаюць за аб'яднанне з Расеяй. Як і ў выпадку з Чачнёй, маскоўскія афіцыйныя колы ўсё больш адкрыта дэманструюць у дачыненні да Беларусі імперскую палітыку.

Аднак даволі шмат удзельнікаў з глыбокім спачуваннем успрынялі інфармацыю

- аднесна ўшчымлення грамадзянскіх правоў і свабодаў у Беларусі;
- наконт зрыву рэжымам Лукашэнкі перамоўнага працэсу, ініцыяванага АБСЕ з мэтай выхаду з канстытуцыйнага крызісу;
- пра мажлівы байкот выбараў у Нацыянальны сход апазіцыйнымі дэмакратычнымі партыямі, калі выбарчы закон не будзе зменены належным чынам;
- наконт акцыяў «Гарачай вясны-2000», масавая падтрымка якіх сведчыць пра глыбокае незадавальненне існуючым рэжымам.

Апрача беларускага пытання, палітычны характар мела і пасяджэнне, прысвечанае новаму прэзідэнту Расейскай Федэрацыі. У абмеркаванні перспектываў палітыкі Ул.Пуціна бралі ўдзел расейскія і ўкраінскія аналітыкі, а таксама расейскі палітэмігрант С.Станкевіч. У дачыненні да свайго прэзідэнта расіяне праявілі значна болей крытычнасці, чым да беларускага. Аднак, усе сыходзіліся на тым, што ў Ул.Пуціна - шырокі набор магчымасцяў: ад саюза з камуністамі да празаходняй палітыкі. Але ў любым выпадку чакаецца апаратная вайна маскоўскай бюракратыі з камандай Ул.Пуціна, што складаецца з пецярбуржцаў і выхадцаў з КГБ.

У астатнім канферэнцыя мела характар абмеркавання канкрэтных праектаў. Стварэнне і добраўпарадкаванне транспартных калідораў. Праблемы гандлю электраэнергіяй і супрацоўніцтва ў гэтым паміж Польшчы і Расеі. Транспарціроўка каспійскай нафты і будоўля трубаправоду ад Адэссы да Гданьска. Гэта той самы нафтавы калектар, ідэю якога БНФ прапанаваў яшчэ ў 1990 годзе. Ён дазволіў бы Беларусі пазбавіцца ад манапалізму расейскіх нафтавых кампаніяў і набываць нафту на сусветных рынках. Зараз гэты праект рэалізуецца, але без удзелу Беларусі.

Удзельнікі дыскусіяў увесь час вярталіся да пытання наконт кардынальнай змены эканамічнай сітуацыі ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе ў сувязі з пашырэннем NATO і Еўрапейскага саюза. Ацэнкі, якія даваліся гэтаму працэсу расейскай дэлегацыяй і астатнімі ўдзельнікамі канферэнцыі, былі супрацьлеглымі. Расея на першы план вылучала праблемы палітычных рашэнняў. А Польшча, наадварот, - гандлёвыя і гаспадарчыя пагадненні.

Відавочна, што Беларусі давядзецца рана ці позна ўключыцца ў гэты няпросты працэс узгаднення інтарэсаў. На жаль, пакуль рэжым Лукашэнкі ігнаруе гэтую праблему. Але палітыка страуса, які хавае галаву ў пясок у хвіліну небяспекі, не абяцае нічога добрага.

**Юрый Хадыка, прафесар**

# «На границе тучи ходят хмуро»

**Міжнародны памежны пераход на беларуска-польскай мяжы Брузгі-Кузніца (Гродна), другі па прапускной здольнасці пасля Берасцейскага пераходу «Варшаўскі мост», паводле патрабавання польскага боку можа быць зачынены на тры з паловай месяцы - з першага жніўня да 15 лістапада.**

**Палякі маюць намер за гэты час пабудаваць сучасны, добраабсталяваны пункт пропуску на 8,5 тысячы аўтамашынаў у суткі. Беларускі бок супраціўляецца закрыццю, сцвярджае, што гэта створыць дадатковыя праблемы для тых, хто перасякае дзяржаўную мяжу і тых, хто кантралюе гэты працэс. Сітуацыя зайшла ў тупік. А час, між тым, не стаіць на месцы. Да першага жніўня засталося ўсяго два месяцы.**

## Чарга была, ёсць і...будзе?

Чарга легкавых аўтамабіляў, што выстраіліся перад КПП у Брузгах, не меней за кіламетр. Супрацоўнікі Гарадзенскага памежнага атрада, якія наладзілі для мяне дзелавую экскурсію па месцах магчымага (зразумела, законнага) перасячэння беларуска-польскай дзяржаўнай мяжы, ацанілі яе працягласць, як тую, што перавышае магчымасць адной памежна-мытнай змены. Цяжкагрузаў было зусім няшмат. Аўтобусы стаялі на ўезд. Іх было чатыры ці пяць. Мяжа памятае і больш доўгія чэргі легкавых машынаў. У 1995-1996-м стаяць (дакладней, марудна прасоўваюцца да КПП) даводзілася па 3-4 сутак, зімою - замярзаючы, улетку - пакутуючы ад спёкі ды смагі. Пра нейкія людскія ўмовы казаць не даводзілася. Але і сённяшняе баўленне часу ў чарзе патрабуе неверагоднага цярпення і вытрымкі. Хто ж гэтыя «героі»? Працэнтаў на 90 - нашыя грамадзяне. Што вязуць? Спірт (гарэлку), цыгарэты, гаручае. Нават калі правозіць усё гэта ў дазволенай колькасці, можна за адну паездку зарабіць да 20 даляраў. Многія паўтараюць аперацыю па некалькі разоў на месяц. Такім чынам кампенсуюць нізкі ўзровень заробку у сваёй установе альбо на прадпрыемстве. На прамысловых рынках Беластока можна сустрэць нямала нашых суайчыннікаў, якія гандлююць беларускімі таварамі і прадуктамі. Іх купляюць такія ж малазабяспечаныя грамадзяне суседняй краіны, пенсіянеры. Цяжка нават уявіць, на якую выручку разлічваюць пры гэтым беларусы. Але, трэба меркаваць - гэта лепей, чым нікуды не ездзіць, і атрымліваючы жабрацкую пенсію ці заробак, горда жыць на малацэ ды хлебе, даношваючы адзенне, купленае ў сямідзесятыя гады.

**Для даведкі: пераход Брузгі-Кузніца ў якасці міжнароднага дзейнічае з 1993 года. Яго прапускная здольнасць - 1000 аўтамабіляў у суткі. Рэальна кантрольныя службы прапускаюць штодня да 2500 аўтамашынаў, але сталыя чэргі ахвотных перасячы мяжу сведчаць пра тое, што і гэтага недастаткова. Тое, што неабходна значна павялічыць магчымасці па пропуску машынаў на памежным пункце, выдатна разумеюць і на польскім боку, і на беларускім. Але пры аднолькавым разуменні існуе розная ступень гатоўнасці рэальна вырашаць гэтую праблему.**

## З аднаго боку

Польшча, імкнучыся хутчэй увайсці ў цывілізаваную Еўропу паўнапраўным сябрам Супольнасці, актыўна праводзіць рэформы і пераўтварэнні, у прыватнасці, павышае ўзровень сэрвісу на дарогах да агульнаеўрапейскага. І з фінансавай дапамогай Еўрапейскага саюза добраўпарадкоўвае памежныя пераходы і пад'язныя шляхі да іх. Адпаведна інфармацыі радыё «Беласток», толькі Падляскае ваяводства, якое мяжуе з Гарадзенскай вобласцю, атрымае на гэтыя мэты каля 20 мільёнаў еўра з фонду PHARE. Для будоўлі памежнага пераходу ў Кузніцы ўжо выкупленыя 18 гектараў памежных земляў для размяшчэння тэрміналу з усімі збудаваннямі памежна-мытнай службы. Спонсары чакаюць рэальных вынікаў ад сваіх капітальных укладанняў. Для таго, каб пабудаваць усё гэта, польскі бок і мае намер прыкрыць пераход на тры месяцы. Нельга казаць, што для беларускага боку гэта надзвычай свежая навіна. Размовы пра неабходнасць зачыніць на нейкі час пераход Брузгі-Кузніца распачаліся ў жніўні мінулага года. А зусім нядаўна стала вядома, што ўжо абвешчаны тэндэр на будаўніцтва. Нечакана беларускі бок выступіў катэгарычна супраць закрыцця пераходу.

## З другога боку

Чацвёртага траўня ў Гродне адбыліся перамовы на тэму мадэрнізацыі памежнага пункта Брузгі-Кузніца, галоўнымі ўдзельнікамі якіх былі ваявода Падляскага ваяводства Крыстына Лукашык і кіраўнік Гарадзенскай абласной адміністрацыі Аляксандр Дубко. Польскі бок зноў заявіў, што мае намер у жніўні распачаць мадэрнізацыю памежнага пераходу і прапанаваў беларускаму боку перанесці на тры месяцы рух на іншыя пераходы, перш за ўсё, на пункт «Бераставіца-Баброўнікі». Беларускі ж бок упарта супраціўляецца закрыццю «Брузгоў».

Чаму? Каму будзе кепска, калі на нашай агульнай мяжы з'явіцца вялікі камфартабельны пункт пропуску? Знікнуць чэргі, што зневажаюць людзей, палепшацца умовы працы памежнай і мытнай службаў. З гэтым цяжка не пагадзіцца, але ў беларускіх уладаў ёсць свае аргументы супраць закрыцця «Брузгоў». Яны сцвярджаюць, што перавод патоку аўтатранспарта з гэтага пераходу значна ўскладніць жыццё нашых грамадзянаў, што суседні памежны пераход Бераставіца-Баброўнікі не вытрымае гэтага патоку, што ён яшчэ не гатовы, што другіх варыянтаў перасячэння мяжы няма і г.д. Польскаму боку прапануецца весці будоўлю ў Кузніцы, не прыпыняючы руху і работы памежна-мытных службаў. Але як бы ні былі ўсе гэтыя аргументы прыкрытыя клопатам пра чалавека, яны не падаюцца пераканаўчымі.

## «Бераставіца-Баброўнікі»

Гэты пераход дзейнічае пакуль толькі для грузавога транспарта. Ён размешчаны ў пасёлку Памежны Бераставіцкага раёна, у 60-ці кіламетрах ад Гродна. Разлічаны на 600 цяжкагрузаў у дзень. Яшчэ прыкладна год таму тут афармлялі да 900 машынаў, зараз грузапаток значна скараціўся (паводле розных прычынаў) да 120-140 машынаў. Тым не менш, гэты памежны пераход можа стаць даволі перспектыўным. Дарога на Маскву цераз яго карацей, чым праз Брузгі.

На польскім боку (Баброўнікі) ужо два гады як пабудаваны прыгожы сучасны пункт пропуску, цераз які могуць праязджаць не толькі грузавыя аўтамашыны, але і легкавыя ды аўтобусы. Пабудаваны, як ужо было сказана, на грошы Еўрасаюза. Наша тэрыторыя забудаваная больш сціпла. Але тое, што на сённяшні дзень падрыхтавана тут для пропуску легкавых машынаў і аўтобусаў, таксама ўражвае. Спецпамяшканні для памежнай і мытнай службы гатовыя да працы, пракладзеныя пад'язныя шляхі. Для пропуску легкавых аўтамабіляў ўсё падрыхтаванае. Недабудаваны, праўда, новы тэрмінал для цяжкагрузаў, не заасфальтаваная буферная зона. Аднак нават для дылетанта ў будаўніцтве зразумела, што гэта не той аб'ём працы, які пры жаданні нельга ахапіць у бліжэйшыя два месяцы. Паўтаруся, пры жаданні.

Наконт прычынаў, што перашкаджаюць заканчэння рэканструкцыі, супрацоўнікі Гарадзенскай мытні - замоўцы будаўніцтва - асабліва не распаўсюджваюцца, даючы зразумець пра загад «зверху». Можна, канешне, з вялікай доляй верагоднасці меркаваць, што асноўная прычына - усё той жа банальны недахоп сродкаў. Але наўрад ці рэч толькі ў гэтым. На прыкладзе адкрытага сёлета ў Гродне Лядовага палаца мы ведаем, як хутка ў нашай дзяржаве могуць завяршацца самыя дарагія будаўнічыя аб'екты. І грошы знаходзяцца, і сродкі, і сілы. Акрамя таго, палякі гатовыя запрасіць нашых мытнікаў і памежнікаў папрацаваць на іх боку ў новым гатовым пункце пропуску.

Тут, як стала вядома з размовы з маёрам Уладзімірам Морхатам, начальнікам аддзялення памежнага кантролю Бераставіцкага аддзялення памежнага атрада, праблема ў іншым: рэзкае павелічэнне колькасці праязджаючых патрабуе дадатковага прыцягнення кваліфікаваных работнікаў, парадку 30-40 чалавек. Апроч таго, няблага было б забяспечыць атрад абсталяваннем для сістэмы памежнага кантролю, радыёстанцыямі, якіх не хапае ўжо зараз. «А з усім астатнім мы разбярэмся,» - запэўніў маёр.

## Міжнародныя і міждзяржаўныя

Памежны пераход Брузгі-Кузніца мае статус міжнароднага. А вось міждзяржаўных, г.зн. такіх, якія маюць права перасякаць толькі грамадзяне дзвюх суседніх дзяржаваў, на тэрыторыі Гарадзенскай вобласці, у адрозненне, скажам, ад Берасцейскай, няма зусім. Хаця яны таксама маглі б значна разгрузіць Брузгі і палепшыць усім жыццё. Так лічаць намеснікі начальніка Гарадзенскага памежнага атрада палкоўнікі Аляксандр Папіж і Міхаіл Каналаў. Тым больш, што дарогі ж ёсць. Засталіся ад стратэгічных збудаванняў Варшаўскага вайсковага блоку.

На Гарадзенскім участку можна, на думку памежнікаў, добраўпарадкаваць чатыры пункты пропуску: у пасёлках Сафіева (Гарадзенскі раён), Рыбалы і Бяляны (Свіслацкі раён) і ў пасёлку Полаўцы (Бераставіцкі раён). Да таго ж, калі казаць пра часовую работу пунктаў, то можна абысціся амаль без выдаткаў. Дастаткова, паводле словаў палкоўніка Канавалава, устанавіць толькі модулі (ва ўжытку - вагончыкі) на пунктах пропуску для работы. І паступова часовыя збудаванні пераабсталяваць у сталыя. Бо, як сведчыць практыка, асноўны паток тых, хто праязджае цераз мяжу, - гэта беларускія грамадзяне.

## Палітыка ўзроўню камуналкі

Вось і атрымліваецца, што ёсцьтакі ў нас магчымасці пераразмеркаваць аўтапаток з Брузгоў на іншыя памежныя пераходы, каб даць суседзям рэалізаваць свой праект па будаўніцтву ў Кузніцы, зачыніўшы яе на тры месяцы. І час ёсць, каб падрыхтавацца. Але замест гэтага беларускія ўлады вынаходзяць спосабы затармазіць працэсы аднаўлення ў польскім памежжы. Навошта нам гэткі яркі кантраст эканамічнага развіцця проста на мяжы? Але, відаць, гэта не адзіная матывацыя супраціўлення. Ёсць яшчэ зайздрасць. Звычайная зайздрасць, калі не сказаць больш груба.

Варта нагадаць, што Польшча на добраўпарадкаванне межаў атрымлівае сродкі ад Еўрасаюза, і шмат. А ў нас на гэтыя мэты грошы выдаткоўвае саюзны бюджэт, і вельмі мала. Да таго ж, заўсёды позна, напрыканцы лета. І без таго мізэрную суму да гэтага часу з'ядае інфляцыя. У сувязі з гэтым падаецца цікавай інфармацыя, агучаная па радыё «Беласток» у сярэдзіне траўня: «Адпаведна заяве прэс-сакратара Міністэрства замежных справаў Рэспублікі Беларусь Мікалая Барысевіча, улады ў Менску незадаволеныя тым, што Польшча атрымала ад ЕС фінансавую дапамогу на мадэрнізацыю памежнага пераходу Брузгі-Кузніца, а Рэспубліка Беларусь такой дапамогі не атрымала».

Знаёмы матыўчык: не ўмеем зрабіць у сябе добра, дык няхай і суседу «жыццё мёдам не падаецца». Замест таго, каб аператыўна скончыць (амаль завершанае) будаўніцтва Бераставіцкага пераходу, абсталяваць міждзяржаўныя пункты пропуску і пераарыентаваць туды транспартны паток, беларускае кіраўніцтва шукае контраргументы на патрабаванне Польшчы, падтэкстам якіх можа быць нешта накшталт: «Мы ад Еўрасаюза грошай не атрымліваем, ну дык і вы будзеце мець праблемы». Не выключана, што спосабам супраціўлення беларускі бок мае намер заадно выгандляваць для сябе вырашэнне нейкіх дробных палітычных пытанняў. Іншае тлумачэнне безразважнаму процістаянню знайсці цяжка.

У гэтай сітуацыі не пазайздросціш толькі тым, хто на самой справе адказвае за парадак на памежным пераходзе, г.зн. памежнай і мытнай службам. Верагоднасць таго, што Брузгі давядзецца-такі зачыніць, досыць вялікая. І тады пачнецца чарговы аўрал, расхлёбваць які давядзецца ўсё тым жа выканаўцам: супрацоўнікам Гарадзенскай мытні і Гарадзенскага памежнага атрада.

**Ніна Палуцкая**




# Астап Бэндэр адпачывае...

У мінулы чацвер, першага чэрвеня, на памежным пераходзе Брузгі-Кузніца спыніўся рух аўтатранспарта на выезд у Польшчу. З васьмі гадзін раніцы да самага вечару натоўп абураных грамадзянаў адмаўляўся перасякаць мяжу, патрабуючы аднаўлення справядлівасці. Потым чарга на беларускім боку перад КПП павялічылася з 1 да 2,5 кіламетраў. Прычынай гэтых бурных падзеяў стала Пастанова Гарадзенскага райсавета ад 29 траўня за N24 аб абавязковай уплаце «мясцовага збору за паркоўку аўтамабіляў». Падобна на тое, што старшыня райсавета А.Саўцоў ды іншыя, хто падпісаў гэты дакумент, безнадзейна далёкія ад простага народа. Вось сумы, якія мяркуецца абавязкова выплочваць перад перасячэннем мяжы: за аўтобус - 7 мінімальных заробкаў, за легкавы аўтамабіль - 1 «мінімалку», гэта для нашых грамадзянаў. Для так званых нерэзідэнтаў: за аўтобус - 50 даляраў ЗША, за мікрааўтобус - 20.

Прычыну з'яўлення гэтага дакумента аўтары не ўтойваюць: не хапае сродкаў у мясцовым бюджэце. Пры гэтым ніхто не паклапаціўся ні пра своечасовае паведамленне грамадзянаў, ні нават пра ўзгадненне гэтага новаўвядзення з памежнай службай. Тым не менш, менавіта памежнікам, у прыватнасці начальніку аддзела памежнага кантролю палкоўніку Аляксандру Папіжу, давялося залагоджваць канфлікт на мяжы. Кіраўнікі раённай улады да месца здарэння прыехаць адмовіліся.

Пастанова Гарадзенскага райсавета N24 у той жа дзень была апратэставаная дзяржпракуратурай. Рух на памежным пераходзе Брузгі-Кузніца ўвечары быў адноўлены.

**Ул. інф.**

ПАДЗЕЯ

# Рэспубліканскі фестываль нацыянальных культураў на два дні ператварыў Гродна ў карнавальнае Рыо

**Гродна, відаць, «застолбил» за сабою права традыцыйнага месца правядзення рэспубліканскіх фестываляў нацыянальных культураў. Гэты, трэці па ліку фестываль, вырашана было зрабіць больш маштабным, ён атрымаў назву Усебеларускі.**

## «Дети разных народов»

Фестываль заўважна падзяляўся на афіцыёзную частку і натуральна-народную. У першы яго дзень моцна павеяла першамаем савецкіх часінаў. Шэсце 15 нацыянальна-культурных аб'яднанняў (нават іх колькасць дзіўным чынам супала з колькасцю рэспублікаў у былым СССР) у нацыянальных касцюмах з нацыянальнай атрыбутыкай рушыла па вулачках старога Гродна і завяршылася на самай вялікай плошчы горада - Савецкай. Але калі калону з нацыянальных дыяспараў гарадзенцы яшчэ неяк паспелі разгледзець, то цырымонію адкрыцця і гала-канцэрт, якія праходзілі на плошчы, змаглі назіраць толькі кардон міліцыянтаў па ўсяму перыметру плошчы, тыя гараджане, якія паспелі прыстроіцца да перыметру, і пачэсныя госці фестываля, што былі на сцэне (г.зн. вышэй плоскасці асфальту). Дарэчы, мерапрыемства сталася даволі прадстаўнічым. На ім прысутнічалі намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Сяргей Посахаў, міністр культуры Аляксандр Сасноўскі, Прэзідэнт Дзяржкамітэта па справах рэлігіяў і нацыянальнасцяў Аляксандр Білык, прадстаўнікі замежных амбасадаў, ну і, канешне, кіраўнікі мясцовай вертыкалі.

На плошчы Леніна перад будынкам гарадской адміністрацыі побач з дзяржаўным сцягам Беларусі горда лунала чырвонае з сярпом і молатам палотнішча сцяга былога Саюза.

## Было б піва паболей!

Асаблівага засмучэння з-за немагчымасці ўбачыць «танцы народаў свету» на плошчы сярод гараджанаў не назіралася, усе рушылі да прадуктова-пітных пунктаў, мноства якіх было раскідана па вулачках гарадскога цэнтру. Радаваліся магчымасці сустрэцца з сябрамі, купіць сваёй дачцы ці сыну яркі шарык, марожанае, паглядзець на народ, парадавацца сонейку. Трэба сказаць, што ў адрозненне ад апошняга фестываля, праводзімага ў 1998 годзе, калі два дні ўсе намаганні ўдзельнікаў бязлітасна паліваў халодны дождж, гэтым разам надвор'е было надзвычай добрым.

Цікаўныя грамадзяне на працягу шасці гадзін маглі прагульвацца ад аднаго да другога нацыянальнага падворку, пазнавальныя праграмы якіх, як было зазначана ў рэкламцы мерапрыемства, раскрывалі «жыццё і побыт пэўнай нацыі, што пражывае на тэрыторыі Беларусі». Падворкаў такіх было наладжана 14. Кожная дэлегацыя здолела зрабіць гэта настолькі, наколькі дазволілі ёй уласныя сродкі. (Як у нас у грамадскіх арганізацыях са сродкамі - вядома). Акрамя традыцыйных для Гарадзеншчыны польскай, літоўскай, украінскай, нямецкай, рускай дыяспараў на гэтым фестывалі з'явіліся такія экзатычныя беларускія жыхары, як армяне, грэкі, карэйцы, башкіры і цыгане. Барон цыганскай дыяспары Алег Казлоўскі, досыць каларытны тыпаж, хаця і карэнны менчук, на пытанне пра тое, як яму ўдаецца збіраць у таварыства суплямennікаў, якія ўвесь час перамяшчаюцца ў прасторы, здзівіў паведамленнем наконт таго, што на тэрыторыі Беларусі, як і іншых краінаў СНД, больш няма качавых цыганаў.

На ўсіх падворках, канешне ж, спявалі і танцавалі. Для сябе і для гасцей. Армянскія і цыганскія выканаўцы (артысты ад народзінаў) доўга трымалі каля сябе нямала гледачоў, а на польскі і літоўскі падворкі людзі прыходзілі, як у госці да суседзяў. Ім, зразумела, дасталіся самыя лепшыя месцы: першым - тэрыторыя Старога замка, другім - Новага. Там можна было проста пасядзець на зялёнай траўцы, адпачыць, ці самім паўдзельнічаць у свяце.

З запрошаных нацыянальных аб'яднанняў не прыбыла дэлегацыя беларускіх эстонцаў. Як патлумачылі нам арганізатары, гэта адбылося таму, што яны, маўляў, збіраліся ўключыць у склад дэлегацыі артыстаў з Эстоніі, што супярэчыць прынцыпу самадзейнасці мерапрыемства.

## За кулісамі

На пачатку арганізатары фестываля - Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Гарадзенскія аблвыканкам і гарвыканкам - замахнуліся на чатырохдзённае святкаванне. Але потым, калі цвяроза ацанілі фінансавыя магчымасці, то ўрэзалі час правядзення свята ў два разы. Як паведамілі арганізатары фестываля журналістам, на мерапрыемства выдаткавалі 60 мільёнаў беларускіх рублёў: па дваццаць мільёнаў павінны былі паступіць з рэспубліканскага і гарадскога бюджэту, 15 - з абласнога і 5 мільёнаў - ад Дзяржкамітэта па справах рэлігіяў і нацыянальнасцяў. Урэшце, і з гэтымі абяцанкамі грашыма праблема. Вядома, што нават на дзень пачатку мерапрыемства далёка не ўсе гэтыя грошы паступілі на рахунак фестываля. Папаўзлі чуткі, што ў сувязі з гэтым, грошай можа не хапіць на выплату травеньскага заробку ўрачам, настаўнікам, акторам тэатра. Але яны даведаюцца пра гэта не раней, як праз тыдзень. І калі гэта сапраўды здарыцца, няхай суцяшэннем ім будзе ўспамін пра выдатны феерверк у пуўнач заключнага дня фестываля.

**Ніна Палуцкая**



Ідуць літоўцы!



Запрашае нямецкая аўстэрыя



У якасці прыза - баран



Прыгожыя дзяўчаты ў грэкаў

**Самым яркім відовішчам у дзень адкрыцця, 2 чэрвеня, стала тэатралізаванае шэсце нацыянальных культурных аб'яднанняў і гасцей ад гатэля «Беларусь» да Савецкай плошчы. На ўсім шляху іх суправаджаў народ з шарыкамі, кветкамі і ў святочным убранні з паралонавых рознакаляровых вушэй, насоў ды іншых рожак-ножак. Пры набліжэнні галавы калоны нават прадаўшчыцы універмага пакідалі работу і прыляпіліся да вокнаў.**

Наогул, усе мерапрыемствы праходзілі вельмі пунктуальна, строга па раскладу. З 16.00 да 17.00 адкрывалі новую зону адпачынку ў горадзе - сквер «Сяброўства» на вуліцы Падольнай. А ўжо а палове шостай усе ўдзельнікі нацыянальных дэлегацыяў і госці сабраліся на старце ля «Беларусі». Роўна ў 18.15 на скрыжаванні вуліцаў Савецкай і Кастрычніцкай з'явілася машына ДАІ, за ёй - увішныя фатарэпарцёры, потым - духавы аркестр і чароўныя барабаншчыцы ў парадной форме, і, урэшце, у алфавітным парадку прайшлі 15 нацыянальна-культурных аб'яднанняў...

А палове сёмай вечара пачалося афіцыйнае адкрыццё. Прысутнічалі амбасадары Польшчы, Малдовы, Літвы, Ізраіля. Разам ганаровых гасцей, членаў журы і аргкамітэта было болей як сто чалавек. Дарэчы, на рэспубліканскі фестываль запрашалі прэзідэнта А.Лукашэнку, але ён не прыехаў. Пасля таго, як адгучаў гімн ІІІ Рэспубліканскага фестываля нацыянальных культураў, мэр Гродна А.Пашкевіч аб'явіў фестываль адкрытым. Паляцелі ў неба рознакаляровыя шарыкі. І пачалося прадстаўленне «Трубяць трубы Гарадзенскія». Рэжысёр шоу склаў відовішча з рыцарскага турніру, сімвалічных танцаў князёўнаў у сярэднявечных беларускіх строях і варты князёў на конях. Усё гэта, як і старажытная музыка, вельмі спадабалася народу, што запаланіў плошчу, навакольныя скверы і вуліцы і, нават, караскаўся, каб лепей бачыць, на дрэвы і бельведэры. У фінале князь Давыд Гарадзенскі ў пурпуровым плашчы звярнуўся да гарадзенцаў: «Любіце свой горад, на славянскай зямлі яму выпала стаць шчытом...» (Не забыўся князь на геапалітыку).

Пасля гэтага пачалося баляванне - гала-канцэрт. Хто хацеў, падаўся на танцы на пляцы, хто - па піва ў шапікі, якіх у цэнтры было багата. А каля васьмі гадзін вечара над Савецкай плошчай узляцеў прывязаны да шарыка белчырвона-белы сцяг. І доўга лунаў над галовамі людзей.

Фестывальная графіто «Птаства», як і адрамантаваны Стары горад, стане рэальным набыткам Гродна ад фэсту. На адкрыцці пано Сяргей Посахаў, які доўга перад гэтым любаваўся на твор, ухваліў аўтара і арыгінальнасць «Птаства»: «Гэта - вечны сімвал дружбы народаў. Кожны можа стаць каля гэтага пано і падумаць пра вечнае...».

Удзень распачалася праграма «Запрашаем на нацыянальныя падворкі». Сярод першых вакол сваіх падворкаў сабралі народ карэйцы, грэкі, малдаване, палякі, беларусы. Грэкі ў дворыку на вуліцы Ажэшкі з самай раніцы пяклі на ражне баранчыка дыігралі музыку, потым вучылі ахвотных круціць нагамі крэндзэлі ў сваім улюбёным танцы сіртакі. Карэйцы найперш пачаставалі гараджанаў таннымі, але надзвычай смачнымі экзатычнымі салаткамі з морквы, капусты, марынаванага мяса і яшчэ немаведама чаго. Танцаўшчыцы ў чырвона-зялёных нацыянальных сукенках паказалі танец з веерамі на пляцоўцы ля універмага. Потым - чаго не бывае ў гэткім тлуме - вядучы праграмы карэйскага падворка аб'явіў, што знайшлася трохгадовая дзяўчынка, якая згубіла бацькоў.

А малдаване ўмудрыліся на сваім падворку сыграць сапраўднае вяселле. На падворку па вуліцы Савецкай быў накрыты стол на некалькі дзесяткаў чалавек, граў гармонік, завіхалася свацця і шаферы. Побач, каб астатнім не было крыўдна, стаяў шапік з шыкоўным меню з малдаўскіх стравак, якія можна было набыць і пакаштаваць тут жа за столікам. А можна было ўзяць рэцэпт плэчінты, мусакі або міціцей на гратары і згатаваць тыя прысмакі дома.

Цыганы на Віленскай паставілі шацёр і запрэглі каня. Немцы запрашалі ў аўстэрыю, украінцы - на Сарачынскі кірмаш і ў шынок, азербайджанцы - у чайхану, армяне - у шашлычную, палякі - у кавярню. А татары ў скураных штанах і з палавецкімі коскамі гойсалі ўсюды на конях.

Беларускі падворак, што размясціўся перад Драмтэатрам, прапанаваў шаноўнай публіцы вялікую канцэртна-танцавальную праграму народных, самадзейных ды прафесійных калектываў і дармовае купанне ў фантане. Улюбёныя народам «Лявоны» выцягвалі на польку-трасуху нават тых, хто ніколі не танчыў. З беларускай кухняй, праўда, рэстаран «Гродна» падкачаў: печаных парасятаў было шмат і ў іншых месцах, а рэстаранныя салаткі былі па смаку проста неядомыя. А дзе дранікі і верашчака? Дзякуй суседзям-літоўцам: яны ля Старога замка частавалі рулетамі, печанымі кішачкамі, рознымі кілбаскамі.

Столькі пачастункаў і пітва адразу, як на гэтым фэсце, горад яшчэ не бачыў. Шапікі і латкі ад усіх гандлёвых пунктаў горада літаральна ламіліся ад пачастункаў. Народ уплятаў варэнікі, шашлыкі, цэпелінай, мамалыгу... У выніку ўжо да васьмі гадзін вечара скончылася мяса ды піва, і народ пачаў даставаць сваё. У скверы ля танка пасля таго, як прыбралі выставу-продаж твораў народнага мастацтва, разгарнуўся ўсеагульны пікнік.

Народу ў цэнтры не паменела і бліжэй да ночы. Моладзь чакала феерверку. Які і выбухнуў у поўнач.

**Алена Сіневіч**

ГІСТОРЫЯ

# Юзаф Ядкоўскі й Горадня

**Сёлета спаўняецца 110 гадоў з дня нараджэньня рупліўцы гістарычнае нівы Горадзеншчыны Юзафа Ядкоўскага. Ён нарадзіўся 8 (20) кастрычніка 1890 году ў Горадні. Навучаўся ў мужчынскай гімназіі, гэтаксама наведваў тайныя курсы па паляністыцы, якія выкладала Эліза Ажэшка. Яшчэ юнаком Юзаф палюбіў родны край, ягоную гісторыю, культуру. Ужо ў 17 гадоў ён надрукаваў свой першы гістарычны артыкул у «Dzienniku Wilenskim». Асабліва вабілі яго каралеўскія замкі.**

Па сканчэньні гімназіі Ядкоўскі зьяжджае ў Маскву. Там ён паступае ў Інстытут археалёгіі, які закончыў у 1912 годзе з адзнакай «выдатна», атрымаўшы спэцыяльнасьць «вучоны археоляг». Як сябра Маскоўскага археалягічнага таварыства выяжджаў у заходнебеларускія губэрні й выконваў фактычна функцыі кансэрватара помнікаў гісторыі й культуры. Рупіўся пра цэрквы абарончага тыпу. У 1913-1914 гадох быў у Міры, Нясьвіжы. Часта наведваў Горадню, Ліду, Крэва. У Начы - разам з Вандалінам Шукевічам - праводзіў археалягічныя дасьледаваньні.

У 1919 годзе атрымаў пасаду начальніка Бюро камісіі дзяржаўнай апекі над помнікамі па Горадні й Горадзенскім павеце. Перад захопам Чырвонай Арміяй Горадні ў ліпені 1920 году Ядкоўскі займаўся эвакуацыяй найбольш каштоўных матэрыялаў. Пасьпеў вывезьці іх 10 вялікіх скрыняў.

Па сканчэньні вайсковых дзеяньняў Ядкоўскі вярнуўся ў Горадню, шукаў матэрыялы, якія засталіся ад створанага Горадзенскім РВК Беларускага музэю.

У 1932 годзе Юзаф Ядкоўскі быў прызначаны ваяводзкім кансэрватарам забыткаў у Беластоку, але хутка вярнуўся ў Горадню, дзе арганізаваў мясцовы музэй, які ўзначальваў да 1936 году. У музэі ствараюцца архіўны аддзел, аддзел фатаграфіі. Тут Юзаф Ядкоўскі сабраў багатую бібліятэку, якая налічвала каля 15 тысячаў тамоў, у тым ліку і старадрукі XV-XVII стагодзьдзяў. Выдаецца штогоднік «Muzeum w Grodnie».

У 1924 годзе Ядкоўскі дамогся перадачы музэю часткі Старога Замку. Праводзіў навуковыя дасьледаваньні, арганізоўваў раскопкі на Швэдзкай гары ў Ваўкавыску, а ў Горадні каардынаваў працу па вывучэньні й захаваньні Замкавай гары й Старога Замку.

У 1932-1933 гадох на Замкавай гары праводзіў раскопкі. У 1934 годзе асобая камісія разглядае праведзеныя працы, моцна крытыкуе й адхіляе Ядкоўскага ад кіраваньня раскопамі.

Тым ня менш, у 1935 годзе ён праводзіць раскопкі каля Калоскае царквы і ўнутры сьвятыні, па выніках якіх друкуе кніжку, што таксама выклікала востры канфлікт паміж Ядкоўскім і польскімі археолягамі.

У 1936 годзе Ядкоўскі пакідае наш горад і пераяжджае ў Варшаву. Там ён працуе ў мастацкіх зборах Замку, у аддзеле антыкварыяту. У 1944 годзе трапляе ў канцлягер Прушкоў. Пасьля вызваленьня Саветамі перабіраецца ў Кракаў, доўгі час хварэе. Вяртаецца ў Варшаву, атрымлівае пасаду кансэрватара ў музэі, арганізуе нумізматычны кабінэт. Быў рэдактарам нумізматычнага штомесячніка.

Памёр Юзаф Ядкоўскі 2 студзеня 1950 году пасьля працяглае хваробы. Гэты чалавек пакінуў пасьля сябе шмат працаў па гісторыі Горадні й Горадзеншчыны, якія й сёньня маюць вялікае значэньне для гісторыкаў і цікавяць усё новых і новых краязнаўцаў. Працы Ядкоўскага па гісторыі нашага гораду вылучаюцца своеасаблівым разуменьнем узьнікненьня старажытнай Горадні. Мы хочам пазнаёміць чытача з артыкулам, прысьвечаным сьвяткаваньню ў Горадні 400-годзьдзя з дня нараджэньня Стэфана Баторага (1933 г.).

## Наднёманскі Вавэль

Горадня і дагэтуль лічыцца другім пасьля Вільні горадам у паўночна-ўсходніх землях Рэчы Паспалітай (міжваенная Польшча. - заўвага аўт.), адносна захаваных забыткаў мінулага. Тут маюцца два каралеўскія замкі: стары, з часоў Вітаўта, перабудаваны Баторым, у якім вялікі кароль Стэфан правёў свае апошнія дні, і новы - з часоў саскіх - места сумнай памяці апошняга сэйму (перад другім падзелам РП) і побыту караля Станіслава Аўгуста перад вывазам яго ў Пецярбург. На месцы Новага замку стаяў у часы Ягелонаў «Domus Regia» (Дом караля), і тут памёр Казімір Ягелон, як таксама і ягоны сьвяты сын Казімір.

Фара Вітаўта, перабудаваная ў часы каралевы Боны ў 1551 г., - места малітваў сьвятога Казіміра й Баторага (паезуіцкі касьцёл быў пабудаваны пасьля 1647 г.), хутка атрымае новы вонкавы выгляд, вытрыманы ў характары эпохі Боны (маецца на ўвазе перабудова ў псэўдаготыцкім стылі 1935 году. - заўвага аўт.).

Родныя цёткі Яна III - Ганна, настаяцелька кляштару сьвятых Брыгідак у Горадні, і Аляксандра з Сабескіх Весялоўская -пахаваныя ў закладзеным апошняй пабрыгідзкім касьцёле (зараз сёстраў Назарэтанак).

Сьвятыня на Каложы, узьнікненьне якой сягае ў XI-XII стагодзьдзі (царква ў імя сьвятых князёў Барыса і Глеба. - заўвага аўт.), і дагэтуль лічыцца найстаражытнейшым помнікам абарончага культавага будаўніцтва на ўсходніх землях Рэчы Паспалітай.

У апошнія часы праводзіцца акцыя ратаваньня схілу Замкавай гары з боку Нёмана, і, у сувязі з паніжэньнем узроўню дзядзінца, выявіліся зь зямлі невядомыя раней помнікі раньнесярэднявечнага будаўніцтва, якія будуць утвараць гонар Горадні.

Адкрыты найстаражытнейшы ня толькі ў Польшчы, але і ў суседніх краінах, жылы «церам» з княжацкага пэрыяду Горадні, узьведзены з тонкай, аздобленай рэльефнымі знакамі цэглы й палявых камянёў з паліраванай з аднаго боку паверхняй.

Побач з жылым будынкам горадзенскіх князёў знойдзеныя рэшткі драўляных пабудоваў, нават драўляных умацаваньняў (востраколаў) з ходнікамі XII-XIII стагодзьдзяў і мураваная сьвятыня прыблізна з XI стагодзьдзя (гэтак званая Ніжняя царква. - заўвага аўт.), калісьці больш за Калоскую аздобленая валунамі й керамікай (каляровай маёлікай).

Калі нейкая гістарычная віхура спрычынілася да зруйнаваньня гэтай сьвятыні (можа, пажар 1183 г.?), на яе рэштках утварыўся пагорак, а ў другой палове XIII стагодзьдзя была пабудавана новая мураваная сьвятыня з адной паўкруглай абсыдай (так званая Верхняя царква. - заўвага аўт.). Захаваліся нават сьляды прыстасаваньня яе да ўсходняга абраду, хаця першапачаткова яна была узьведзена як каталіцкая сьвятыня. Для каго й кім пачаткова пастаўленая - цяжка зараз высьветліць. Згодна кронікаў магла быць узьведзеная для Марты, жонкі караля літоўскага Міндоўга, бо вядома, што тая была хрысьціянкай. І ня недзе ў сэрцы паганскай Літвы, а ў адвечна хрысьціянскай Горадні гэтая царква магла існаваць. А можа, меў тут апорны пункт дамініканін Віт, які быў высьвечаны ў Польшчы на першага біскупа Літвы, хаця крыжакі вылучылі свайго біскупа для Літвы, Хрысьцьяна (Chrystjana). Абодва, аднак, прысутнічалі на хрышчэньні Міндоўга.

Калі сын Міндоўга Войшалк вярнуўся з паходу на гару Athos, ён, як хрысьціянін (прыняў хрышчэньне па ўсходняму ўзору), мог загадаць прыстасаваць замкавую сьвятыню пад ўсходні абрад.

Сьвятыня гэтая, аднак, нядоўга існавала. Ужо пад час войнаў з Крыжакамі, а быць можа і з Галіцкай Русьсю, была спустошаная. Працы па раскопках дагэтуль працягваюцца. Шмат яшчэ таямніцаў Старога Замку можа адкрыцца.

Аднак ужо сёньня можна сьцьвярджаць, што папярэднія вынікі (раскопак. - заўвага аўт.) дазваляюць нашыя веды пра культуру паўночна-ўсходніх земляў Рэчы Паспалітай пасунуць найменш на два стагодзьдзі ўглыб, да часоў, калі над Нёманам панавалі Нарманы, якія сталіся хрысьціянамі раней за тутэйшых Славянаў.

Пад адкрытымі мураванымі збудаваньнямі залягаюць абгарэлыя рэшткі пабудоваў, хутчэй за ўсё нарманскіх, - і толькі гэтым можна растлумачыць паходжаньне назвы «Горадня», вядомай бізантыйскаму цэзару Канстанціну Парфірагэнэце ўжо ў сярэдзіне X стагодзьдзя, як Нэмагардас (Nemogardas). Garгr - так нарманы называлі агароджанае месца, агароджаны двор. Адтуль, напэўна, летувісы і пазычылі сваё Gardas - а ў прыватнасьці Gardinas - адвечную назву Горадні.

У сувязі з 400-годзьдзем дня нараджэньня вялікага караля Стэфана Баторага, а ў 1936 годзе - 350-ай гадавінай ягонай сьмерці ў Каралеўскім Старым замку ў Горадні заснаваны Ваяводзкі камітэт ушанаваньня памяці караля Стэфана Баторага ў Горадні пад пратэктаратам Пана Прэзыдэнта Рэчы Паспалітай.

Каралеўскі Стары замак у Горадні стане рэзыдэнцыяй Галавы Краіны й адначасова сховішчам помнікаў культуры й гісторыі краю (Дзяржаўны музэй), а разам з комплексам забыткаў першачарговай навуковай вартасьці, выканае ролю Наднёманскага Вавэлю.

**У сьнежні гэтага году споўніцца 110 гадоў як нарадзіўся Юзаф Ядкоўскі. І надыходзіць той час, калі варта насамрэч адзначыць памяць дасьледніка Горадні, аб унікальных адкрыцьцях якога на Замкавай гары пісалі многія эўрапейскія газэты. Мы лічым, што ўдзячныя горадзенцы павінны ўшанаваць памяць Юзафа Ядкоўскага. Прынамсі наданьнем адной з вуліцаў нашага гораду ягонага імя. На думку аўтараў, вуліцай Юзафа Ядкоўскага мэтазгодна нарачы цяперашнюю набярэжную ў падножжа Замкаў, якая дарэчы у 20-х гадох і была закладзеная менавіта зь ініцыятывы тагачаснага дырэктара музэю.**

**Алесь Госьцеў, Ян Лялевіч**

**Здымкі з прыватных збораў Яна Лялевіча, публікуюцца ўпершыню**



Юзаф Ядкоўскі праводзіць раскопы Ніжняе царквы. 1932-1933гг.



Стары замак у 30-я гады



Уладкаваная набярэжная ў падножжа Старога Замку. Здымак пачатку 30-х гадоў

# Ажэшка вяртаецца на Беларусь

**Аднатомнік вядомай польскай пісьменніцы Элаізы Ажэшка (06.06.1841-18.05.1910 гг.) «Выбранае» выйшаў у менскім выдавецтве «Беларускі кнігазбор».**

Элаіза Ажэшка, як вядома, нарадзілася ў Беларусі, у маёнтку Мількаўшчына пад Гроднам, і актыўна ўдзельнічала ў нацыянальна-вызваленчым паўстанні 1863 года супраць расейскага самадзяржаўя. Гэта потым перашкодзіла Э.Ажэшка атрымаць працу, і пісьменніцтва стала адзіным спосабам заробку. Яна намінавалася на Нобелеўскую прэмію.

Элаізу Ажэшка - паслядоўную прыхільніцу беларускага адраджэння - заўсёды паважалі ў асяроддзі нацыянальнай інтэлігенцыі. У аднатомнік Ажэшка, выдадзены ў Мінску, уключаны створаныя выключна на беларускім матэрыяле апавяданні, аповесці і раманы ў перакладах Янкі Брыля і Галіны Тычкі. Героі яе апавядання «Зімовым вечарам», аповесцяў «Нізіны» і «Хам» шчодра перасыпаюць сваю гаворку беларускімі прымаўкамі і прыказкамі. У аповесці «Дзюрдзі» паэзія народнага жыцця пераплятаецца з язычніцкімі забабонамі, што паслужылі прычынай гібелі галоўнай гераіні, якую сяляне забіваюць, палічыўшы вядзьмаркай. (Дарэчы, калі казаць пра забабоны, дык, паводле сведчання вядомага этнографа Адама Кіркора, яшчэ на мяжы XIX-XX стагоддзяў сяляне Віцебскай губерні, напрыклад, употай пакланяліся язычніцкім ідалам).

Зборнік навел «Cloria viktis» («Слава пераможаным») прысвечаны героям 1863 года, якія змагаліся за свабоду Бацькаўшчыны, а нарысы «Людзі і кветкі над Нёманам», заснаваныя на беларускім фальклоры, сталі вынікам этнаграфічных экспедыцый Э.Ажэшка па Гарадзенскай губерні.

**Марат Гаравы**

# Сказ пра зямлю Тураўскую

**Кожнаму, хто шануе і любіць свой родны край, будзе цікава пазнаёміцца з кнігай доктара гістарычных навук, прафесара, археолага, загадчыка аддзела археалогіі сярэднеславянскага перыяду інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Пятра Фёдаравіча Лысенкі «Тураўская зямля XI-XIII стагоддзяў».**

Ва ўводзінах гэтай кнігі значыцца: «Аўтар ставіць сваёй задачай абагульніць атрыманыя звесткі па гісторыі Тураўскай зямлі на аснове комплекснага даследавання пісьмовых крыніц, графічных і картаграфічных матэрыялаў і разнастайных калекцый археалагічных знаходак».

Кніга мае шэсць раздзелаў. Гэта «Тураўская зямля», «Этнічная гісторыя Тураўскай зямлі», «Пасяленні», «Эканамічнае развіццё», «Занятак насельніцтва», «Культура», «Палітычная гісторыя». На жаль, рамкі артыкула не дазваляюць нават сцісла перадаць іх змест.

У «Заключэнні» навуковец зазначае: «На базе інтэнсіўнага эканамічнага жыцця гарадоў Тураўскай зямлі значнага развіцця дасягнула культура. Распаўсюджваецца пісьменнасць, развіваецца прыкладное мастацтва, удасканальваецца будаўнічая тэхніка. Прынядце хрысціянства, будаўніцтва царкваў, манастыроў садзейнічала распаўсюджванню граматнасці, увядзенню будынкаў манументальнай архітэктуры, стварэнню арыгінальных твораў старажытнай пісьменнасці (Кірыла Тураўскі). У Тураве была заснавана адна з першых епіскопій на Русі».

**Васіль Маркевіч**

# РЭКЛАМА Тэлефон: (0152) 72-29-96, 72-37-14




## ПРАДАЮ

VW «Transporter», 1990 г.в., грузавы, дызель 1.6 л, старт; кошт - 2,5 у.а.; ГАЗ-330730 (тэнт), 1993 г.в., бензін, прабег 23000 км, кошт - 2000 у.а. Магчымы бартар альбо безнаяўны разлік. Тэл. (8-213) 2-57-61 (запрасіць Пятра).

Фольксваген-Пасат, 1986 г.в., дызель-універсал (салон - велюр, сігналізацыя). Тэл. 99-64-98.

Каляровы тэлевізар «ЦТ-411», крэсла-ложак. Танна. Тэл. 5-17-72 (пасля 18.00).

Фартэпіяна «Беларусь», у добрым стане; новую пральную машыну «Мара». Тэл. 5-11-03.

Пральную машыну-аўтамат (вытв.Германіі), б/у. Танна. Тэл. 73-00-00 (аб.95352).

Дробную бульбу. Тэл. 44-69-03.

Маразільнік гандлёвы ў добрым стане, б/у. Танна. Тэл. у Лідзе 2-40-06.

TV-антэны, карнізы вытворч. Польшчы, гімнастычную (шведскую) лесвіцу. Танна. Магчыма дастаўка. Тэл. 6-99-43 (пасля 15.00).

Мапед «Рыга-7» з запасным рухавіком. Тэл. 44-38-29.

Дзвюхпакаёвую кватэру ў в.Касцюковічы Магілёўскай вобласці. Тэрмінова. Танна. Тэл. (8-02240) 5-25-22.

Дом (10 км ад Смаргоні), ёсць сад, гаспадарчыя пабудовы, побач - рака. Тэл. 99-64-98.

Паўдома ў раёне басейна «Лазурный». Тэл. 33-19-60 (з 18.00 да 21.00).

Дачу ў в.Жылічы, побач - бярозавы гай, рака Нёман. Тэл. 44-39-53.

Дачу ў раёне вёскі Навумавічы, а таксама канапу-ложак і два крэслы-ложкі. Тэл. 76-19-29.

Імпартную аўтамагнітолу, акустычную сістэму, узмацняльнік. Тэл. 73-00-00 (аб.95352).

Халадзільнік «Снайге-15Е», б/у, а таксама шыны і лабавое шкло ад «Масквіча-2140». Тэл. 44-39-70.

Дзіцячы ровар у добрым стане, б/у; надзіманыя колы «Нёман-4» . Тэл. 47-18-21.

Кнігі па эксплуатацыі і рамонту бытавой радыё-электраапаратуры; а таксама С.Жапрызо «Убийственное лето», «Фантомас» 1-6 тамы, Р.Хайнлайн «Звёздные рэйнджеры», «Космический патруль», А.Някрасаў «Приключение капитана Врунгеля», «Ужасы»; «Как стать бизнесменом», «Что и как делать, чтобы стать предпринимателем», «Живите без проблем: секрет лёгкой жизни», «Лекарственные средства». Калі вышлеце канверт са зваротным адрасам, то атрымаеце спіс кніг і кошты на іх. Лісты буду чакаць на адрас: 231600, Гарадзенская вобласць, г.Масты, вул. Пралетарская, 35/2.

Кнігі: энцыклапедыя «Беларуская ССР» у 5-ці тамах, 1982 г.; «Энцыклапедыя прыроды Беларусі» ў 5-ці тамах, 1986 г.; энцыклапедыя «Этнаграфія Беларусі», 1982 г.; энцыклапедыя «Мир растений» у 7-мі тамах, 1977 г.; А.Брэм «Мир животных» у 3-х тамах, 1992 г.; «Живописная Россия», рэпрынтнае выданне, Менск, 1994 г.; «Советский энциклопедический словарь», Масква, 1984 г.; А.Мальдзіс «Жыццё і ўзнясенне Ул.Караткевіча», Менск, 1990 г.; А.Мальдзіс «Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры 18 ст.», Менск, 1982 г.; В.Грыцкевіч «От Немана к берегам Тихого океана», Менск, 1982 г.; В.Грыцкевіч «С факелом Гиппократа», Менск, 1987 г.; М.Ткачоў «Замки Белоруссии», Менск, 1987 г.; помнікі мемуарнай літаратуры Беларусі 17 ст.; Ф.Еўлашэўскі «Успаміны»; Ян Цадроўскі «Успаміны», Менск, 1987 г.; Ян Чачот «Наваградскі замак», Менск, 1989 г.; Э.Ляўкоў «Маўклівыя сведкі мінуўшчыны», Менск, 1992 г.; К.Тарасаў «Памяць пра легенды», Менск, 1990 г.; «Наша ніва», рэпрынтнае выданне, выпуск 1, 1906-1908 гг., Менск, 1992 г.; А.Федарчук «Садово-парковое искусство Белоруссии», Менск, 1989 г.; «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі», Гомельская вобласць, Гарадзенская вобласць, Менск, 1993 г.; Ул.Караткевіч. Збор твораў у 10-ці тамах. Менск, 1992 г. Лісты дасылайце на адрас: 246024, г.Гомель, вуліца Свярдлова,56 (А.Копаць) ці тэлефануйце ў Гомель на нумар: 3-16-39.

Кацёл для лазні. Тэл. 6-01-59.

Кніжныя шафы, фотаапарат «Зенит», фотасветлафільтры, люстру, падпісныя выданні, карнізы. Усё б/у. Тэл. 33-59-87.

Раздзяляльнік паралельных тэлефонных ліній, з пераадрасоўкай гудкоў, унутранай сувяззю, без праслухоўвання. Тэл. у Менску (017) 253-14-47.

Металічную цяпліцу. Тэл. 75-33-55.

Электракабель, чатыры фазы, 100 метраў; гуму да УАЗ. Тэл. 44-12-01.

## КУПЛЮ

Дакументы на Форд-Эскорт, універсал. Тэл. 72-77-46.

Два металічныя абручы для заняткаў гімнастыкай, не абавязкова новыя. Танна. Тэл. 72-37-14 (працоўны, з 10.00 да 18.00, акрамя серады і выхадных, запрасіць Святлану).

Дом ці зямельны надзел у Гродне да 5 000 у.а. (прапаноўвайце варыянты); дакументы на іншамарку. Тэл. 5-17-72 (пасля 18.00).

Факсімільнае выданьне Статуту ВКЛ 1588 году, граматыку Б.Тарашкевіча, кнігу «Летапісы і хронікі» зь серыі «Беларускі кнігазбор». Тэл. 5-36-02 (запрасіць Юлію).

Куплю наступныя выданні: 1) «Беларуская энцыклапедыя» т.1; 2) «Ілюстраваная храналогія гісторыі Беларусі» т.1; 3) «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі», т.4; 4) Энцыклапедычны даведнік «Беларусь». На абмен прапаную: 1) Міхась Ткачоў «Замкі і людзі»; 2) Кастусь Тарасаў «Памяць пра легенды»; 3) Генадзь Сагановіч «Невядомая вайна»; 4) кніжкі з серыі «Нашы славутыя землякі». Тэл. 47-24-00.

Антыкварыят, старыя манеты, узнагароды, гадзіннікі. Тэл. 72-02-26.

Кнігі на беларускай мове: мастацкую літаратуру (Л.Геніюш, Ул.Караткевіч, М.Гарэцкі, М.Багдановіч, А.Гарун, Цётка ды іншыя) і гістарычную літаратару (М.Ермаловіч, М.Ткачоў, Ул.Ігнатоўскі, В.Ластоўскі, Мітрафан Доўнар-Запольскі). Тэл. (017) 258-43-54.

## МЯНЯЮ

Адну- ці трохпакаёвую кватэру ў г.Барысаве на кватэру ў г.Ваўкавыску альбо г.Гродна. Тэл. (01777) 4-33-25.

## ПАСЛУГІ

Рэпетытарства, кантрольныя і курсавыя работы па беларускай мове і літаратуры. Тэл. 6-67-55.

**Неўрапатолаг першай катэгорыі Я.І.Кухта**

Лячэнне захворванняў астэахандрозу пазваночніка (радыкулітаў, пляксітаў, перыартрозаў ды іншых). Звяртацца на адрас: вул.Багуцкага, 2а (інтэрнат КБМ), канцавы прыпынак аўтобусаў N8, N15. Магчыма лячэнне па выкліку на дом. Тэл. 39-96-76 (да 9.00 і пасля 20.00); 39-00-01 (у любы зручны час). Ліц. N581 МАЗ ад 25.03.1998 да 2003 года.

**Рэдакцыя газеты ПАГОНЯ абвяшчае КОНКУРС на замяшчэнне пасады кіраўніка аддзела рэкламы і маркетынгу.**

**Абавязковыя ўмовы: амбітнасць, камунікабельнасць, досвед працы.**

**Даведкі па тэлефонах: 72-29-96, 72-37-14.**

Зраблю падшыўку дакументаў (бухгалтарскіх, вытворчых, кадравых). Тэл. 75-47-22.

Рэпетытарства па фізіцы. Дапамагу ў рашэнні задачаў, кантрольных работаў. Тэл. 76-55-14 (запрасіць Юрыя).

Набор тэкстаў, табліцаў на камп'ютары. Раздрукоўка на струйным альбо матрычным прынтары. Танна. Не абавязкова на Вашай паперы. Тэл. 93-53-56.

Рамонт каляровых тэлевізараў. Устаноўка ПАЛ, дыстанцыйнага кіравання, тэлетэксту. Ліц. N1243, выдадзеная МП да 2004 года. Тэл. 31-37-05.

Кантрольныя і курсавыя работы (энергазабеспячэнне, энергазберажэнне). Тэл. 5-92-07 (пасля 18.30, запрасіць Васіля).

Усё па гісторыі. Тэл. 47-35-26.

Балгарская, беларуская мовы: пераклады, індывідуальнае навучанне. Тэл. 2-85-77.

Абследаванне і лячэнне хранічных захворванняў па методыцы Р.Фоля. Ліц. МЗ РБ N224 да 30.XII.2001 года. Тэл. (8-017) 258-88-14.

Відэаздымка. Якасна выканаем работы па стварэнню відэафільма пра Ваш лёс, юбілей, прэзентацыі. Ліц. N613, выдадзеная МК да 2004 года. Выязджаем на месца здымкі на сваім транспарце. Тэл. у Ваўкавыску 2-34-86.

**Доктар С.Каляда**

Інтэнсіўная псіхатэрапія алкагалізму, залішняй вагі. Найноўшыя методыкі. Тэл. 74-35-46 (да 18.00). Ліц. N796 па 23 сакавіка 2004 г., МЗ РБ.

Камп'ютарны набор, скан іраванне, раздрукоўка на лазерным прынтары. Тэл. 5-36-02 (запрасіць Юлію).

## РОЗНАЕ

Надзея Салыга! Наконт артыкулу пра «Руки вверх» - досьціп экстракляса! Тым ня менш, зычым як мага хутчэй вызначыцца з сваёй Айчынай. Крышка Ру і МММ

Аддам кацянятаў у добрыя рукі. Звяртацца на адрас: г.Гродна, вуліца Горкага, д.67, кв.21.

Шукаю працу перакладчыка (польскую і балгарскую мовы ведаю дасканала) альбо іншую сур'ёзную працу. Тэл. 2-85-77.

Шукаю працу па абіўцы мяккай мэблі. Забяру непатрэбную старую мэблю. Тэл. 44-39-15.

Шукаю працу па рамонту пыласосаў, з гарантыяй. Тэл. 6-45-74.

Шукаю працу па зборцы мяккай мэблі. Тэл. 2-94-97.

Шукаю працу па падшыўцы і падклейванню падэшваў у абутку. Тэл. 31-77-41 (у любы зручны для вас час).

Шукаю працу па ўстаноўцы і замене пераключальнікаў і фаерак у электраплітах. Тэл. 2-94-94.

Ахвотныя атрымаць новую кнігу Міколы Ермаловіча «Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае» дашліце замову, свой дакладны адрас і 2200 рублёў Алесю Міхайлавічу Сабаленку на адрас: 220131, г.Менск, п/с 268. Кнігу атрымаеце праз пошту. У Менску кнігу М.Ермаловіча заўжды можна набыць у сядзібе ТБМ, што па вуліцы Румянцава,13.

Патрабуюцца рабочыя для будаўніцтва ў мікраpаёне Ласосна (1 км ад прыпынку Фолюш) агароджы з сеткі «рабіца». Слупы (трубы) усталяваныя ўнізе, неабходна зрабіць бардзюр. Аплата па дамоўленасці. Тэл. 33-67-31.

Калі жадаеце быць яшчэ прыгажэйшымі, раю вам, мілыя дзяўчаткі і жанчыны, зрабіць прычоску ці стрыжку, меліраванне альбо пафарбаваць валасы ў цырульні, якая месціцца ў будынку магазіна «Спорттовары», - «У Элізы». Дзяўчаты ў гэтай цудоўнай цырульні, што насупраць чыгуначнага вакзала, працуюць штодня, акрамя нядзелі. З панядзелка па пятніцу - з 8.00 да 20.00, у суботу - з 8.00 да 14.00. Нумар тэлефона для папярэдняга запісу: 47-36-37. Скажу Вам па сакрэту: найлепшы майстар - Алена. Надзвычай акуратная, ветлівая, тактычная, сапраўды ўлюбёная ў сваю справу! Цырульніца экстракласа! Я дагэтуль вельмі ўдзячна ёй за неверагодна класную стрыжку і першае ў маім жыцці меліраванне! Я была настолькі прыемна здзіўлена, калі нарэшце расплюшчыла вочкі, - у люстэрку на мяне пазірала дзяўчына, гадоў так на сем маладзейшая і куды прыгажэйшая за мяне ранейшую! Завітайце ў цырульню «У Элізы» - і вы ўпэўніцеся: дзяўчаты, якія там працуюць, - і асабліва Алена - сапраўдныя чараўніцы!

Шукаю працу па нарэзцы пратэктару шынаў легкавых, грузавых машынаў усіх марак. Тэл. 44-39-15.

Шукаю працу на даму. Сартаванне, упакоўка. Просьба інтым не прапаноўваць. Тэл. 76-39-71.

Прапануем часовую працу для студэнтаў, якія валодаюць замежнай мовай, пажадана - веданне камп'ютара. Заробак - ад 20 да 100 у.а. Тэлефануйце на нумар: 73-00-00 (аб.95200) ці дасылайце лісты на адрас: 230005, г.Гродна-5, а/с 63, прафсаюз прадпрымальнікаў.

Выстава аўдыё-відэакнігапрадукцыі працуе па новым адрасе: г.Гродна, вул. К.Маркса, 11, 2-і паверх. Чакаем вас кожны панядзелак і сераду з 17 да 20 гадзін.

Супрацоўнікі рэдакцыі ПАГОНІ нагадваюць чытачам, якія дасылаюць аб'явы ў рубрыку «Знаёмствы», пра неабходнасць указваць напрыканцы купона нумар паштовага аддзялення сувязі і сваёй абаненцкай скрыні альбо пакідаць наступную інфармацыю: індэкс паштовага аддзялення, «да запатрабавання, прад'яўніку пашпарта ці іншага дакумента...». Гэта дасць усе падставы меркаваць, што абвесткі наконт знаёмстваў належаць менавіта вам, шаноўныя чытачы, а не тым, хто жадае з вас пажартаваць.

## ЗНАЁМСТВЫ

*Для стварэння сям'і жадаю знайсці прыстойную жанчыну, якая мае жылплошчу.* Пра сябе: узрост - 33 гады, рост - 165 см; жанаты не быў, па нацыянальнасці - беларус, па гараскопу - Скарпіён. Чакаю лісты на адрас: 230025, г.Гродна, Галоўпаштамт, да запатрабавання, п/п IV-ДР N706368.

*Для стварэння сям'і пазнаёмлюся з адзінокім мужчынам 45-55 гадоў, які забяспечаны жыллём і не быў асуджаным.* Пра сябе: удава, 48/173, згодна на пераезд. Тэл. у Ваўкавыску 5-16-52.

## ВІНШАВАННІ

Ад усяго сэрца віншуем ***Валянціну Мікалаеўну Сіліцкую*** з Днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя, дабрабыту і ўсяго самага-самага светлага і добрага!

**Аляксей ды Ірына**

Шчыра віншуем ***Аленачку Сіневіч і Юлечку Дарашкевіч*** з Днём народзінаў! Зычым вам у гэты цудоўны дзень, калі вы, нашы летнія красачкі-прыгажунькі, з'явіліся на свет, як мага болей усмешак! А да наступнага Дня нараджэння - здароўя, неверагодных ўражанняў, творчага плёну на журналісцкай ніве, светлых мрояў і летуценняў, а таксама чароўнага кахання і ажыццяўлення вашых самых патаемных дзявочых жаданняў і памкненняў!

**ПАГОНЯўцы**

Віншуем шаноўнага спадара ***Янку Курчэўскага*** з 40-годдзем! Жадаем здароўя, шчасця, кахання!

**Сям'я Крой і Савашынскіх**

Віншую ***Тацянку і Альгуньку*** з надыходам лета! Пабавімся!

**Крышка Ру**

## СПАЧУВАННІ

Сябры Гарадзенскай філіі Грамады выказваюць шчырае спачуванне Валянціну Лучко з прычыны напаткаўшага яго гора, смерці цесця.

## Гарадзенскі ўікэнд



**Гісторыка-археалагічны музей. Стары замак.** Выстава «Гродна, адкрыты археолагамі». Авальная зала. Выстава - «Медны посуд XVIII - пачатак XX стагоддзяў». Сенатарская зала. Дзейнічае экспазіцыя «Зброя мінулых стагоддзяў».

**Галерэя «У Майстра» (вул. Кірава, 14).** Сумесная выстава мастакоў.

**Выставачная зала Саюза мастакоў.** Выстава мастакоў-удзельнікаў III Усебеларускага фестываля нацыянальных культураў «Фэст-2000».

**Музей Гісторыі Гарадніцы (вул. Ажэшкі, 37).** Выстава батыку вучняў восьмага класа сярэдняй школы N31.

**Дызайн-галерэя «Раскоша» (вул. Ажэшкі, 39а).** Выстава антыкварыяту, керамікі, шкла, скуры і твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**Музей Максіма Багдановіча** запрашае з 10.00 да 18.00. Дзейнічае выстава, прысвечаная Францішку Багушэвічу. Выходныя дні: нядзеля, панядзелак.

**Тэатр лялек.** 9 чэрвеня - «Васіліса Цудоўная». Пачатак спектакля ў 11.00. 11 чэрвеня - «У шчаслівай даліне Мумітроляў». Пачатак спектакля ў 12.00.

**Драмтэатр.** 11 чэрвеня - «Зорная ростань». Пачатак у 17.00. Кошт квітка - 500 рублёў.

**Моладзевыя дыскатэкі**

**Кінатэатр імя Пушкіна** - з 22.00 да 24.00 (у пятніцу), з 22.00 да 01.00 (у суботу), з 22.00 да 24.00 (у нядзелю).

**Кінатэатр «Усход»** - з 22.00 да 24.00 (у пятніцу), з 22.00 да 01.00 (у суботу), з 22.00 да 24.00 (у нядзелю). Штодня працуе пракат відэакасетаў, більярд, камп'ютарныя гульні.

**Кінатэатр «Кастрычнік»** - з 22.00 да 01.00 (акрамя панядзелка і аўторка). Працуе кафэ-бар (серада - нядзеля).

**Палац «Юнацтва»** - з 20.00 да 01.00.

**Палац тэкстыльшчыкаў** - з 20.00 да 24.00 (у пятніцу), з 20.00 да 01.00 (у суботу), з 20.00 да 01.00 (у нядзелю).

**Калізей-2000.** Начны клуб адчынены з 23.00 да 05.00, акрамя панядзелка - танцавальныя і стрыпціз-шоу. Рэстаран працуе з 12.00 да 05.00.

**Гатэль «Нёман».** Начны клуб-казіно «777». Дзейнічае бар, танцавальнае шоу, казіно. Клуб адчынены з 20.00 да 06.00.

**ПАГОНЯ купон прыватнай бясплатнай аб'явы**

20 Імя і прозвішча ____________________

Адрас (тэлефон) ____________________

Рубрыка ____________________

Тэкст ____________________

Аб'явы, дасланыя на купонах, друкуюцца ў першую чаргу; неразборліва напісаныя аб'явы не друкуюцца

Купон з тэкстам адпраўце па пошце на адрас: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11

**Да ўвагі сябраў Аб'яднанай Грамадзянскай Партыі па гораду Гродна і Гарадзенскай вобласці**

Усім першасным арганізацыям да 10 чэрвеня 2000 года неабходна стаць на ўлік у Гарадзенскую гарадскую і Гарадзенскую абласную арганізацыі АГП. Для пастаноўкі на ўлік належыць падаць заявы, пратаколы ўстаноўчага схода і спісы сябраў арганізацыі.

Арганізацыі, якія не сталі на ўлік, не змогуць удзельнічаць у канферэнцыях ды іншых мерапрыемствах, праводзімых АГП па гораду Гродна і Гарадзенскай вобласці.

Усім сябрам партыі неабходна стаць на ўлік у сваіх першасных арганізацыях альбо непасрэдна ў гарадскую ці абласную арганізацыі АГП.

Даведкі па тэлефоне (0152) 31-30-62

Паштовы адрас: 230005, г.Гродна-5, а/с 63.

ПЯРЭСТЫ КУТ

# Музыка дае маладосць

**У сераду ў Палацы творчасці дзяцей і юнацтва адбылася святочная вечарына-бенефіс кампазітара, кіраўніка ўзорнага фальклорнага ансамбля «Гарадзенскія дударыкі» Яўгена Петрашэвіча (на здымку).**

Паважаны гарадзенскі маэстра-творца ў гэты дзень адзначыў сваё 70-годдзе. Нарадзіўся ён у вёсцы Падбараны Мастоўскага раёна ў адукаванай інтэлігентнай беларускай сям'і, з дзяцінства чуў народную музыку і песню.

Пасля заканчэння Гарадзенскай музычнай школы і Менскага музычнага вучылішча 18 гадоў працаваў у музычнай школе. Потым - кіраўніцтва аркестрам у народных ансамблях «Нёман», «Вянок». А 13 гадоў таму ў Палацы творчасці дзяцей і моладзі з'явіўся фальклорны ансамбль «Гарадзенскія дударыкі», кіраўніком якога і стаў Яўген Петрашэвіч.

Праграма святочнай вечарыны «Музыка мае жыццё» складалася з выступлення выканаўцаў твораў спадара Петрашэвіча - ансамбляў «Гарадніца», «Гасцінец», «Нёман», аркестра і хора Гарадзенскай капэлы. Былі выкананыя і самыя знаныя, на думку кампазітара, творы - кантата «Гродна - мой горад», карагод «Залатыя каласы».

Нягледзячы на сталы век, юбіляр да гэтай пары захоўвае незвычайную жвавасць, маладую ўсмешку і творчы запал. Чаго мы яму жадаем і надалей!

**Алена Сіневіч**

# Мастакі і піва любяць адзін аднаго

**У першы дзень лета ў галерэі «У Майстра» адбылося фінальнае шоу мастацкай акцыі «Пад піва».**

Галоўны сэнс акцыі быў такі: у вясёлай кампаніі сяброў-мастакоў пад піва размаляваць звычайныя чорныя і белыя майкі. Так бы мовіць, ператварыць іх у высокамастацкія рарытэты. Што і ўдалося зрабіць - і выстава вынікаў «падпіўной акцыі» першага чэрвеня гэта пацвердзіла. Мастакі паказалі, што можа ўдарыць у галаву цёплай кампаніі. У выставачнай зале «У Майстра» цяпер вельмі арыгінальная кампазіцыя: эксклюзіўна размаляваныя майкі, шыльдачкі з піўнымі афарызмамі, а пасярэдзіне - гіганцкая кардонная майка з тэкстам гімна піву (аўтар - Васіль Акудовіч), які і быў выкананы а capello ў вечар адкрыцця выставы.

Мастакі-ўдзельнікі акцыі і ў такім арыгінальным жанры, як роспіс маек, здолелі праявіць свой індывідуальны стыль у кожным творы. Алесь Суровы, напрыклад, і сам няўлохя падобны на боцмана з трубкай і куфлем, якога намаляваў на адной з маек. Сяргей Грыневіч удала дапасаваў да піўной тэмы сваіх знакамітых малькоў, што фігуруюць на многіх яговых карцінах. Аляксандр Сільвановіч выняшаў стыльную, як заўсёды, сімвалічную выяву «Yellow submarin» на чорнай майцы. Словам, усе - шэдэўры. Аднак маек занадта мала на ўсіх патэнцыйных пакупнікоў. Аматарам «маечнага жанру» прапануем набыць фарбы і ўпрыгожыць свае адзенне карцінкамі з піўнымі афарызмамі з выставы:

**Піва ў хаце - і жонкі не трэба**
**Маеш піва - дай сербануць**
**Недарэка піва ня п'е**
**Піва - не дай сабе самлець**
**Выпіў спрайту - самлеў, выпіў піва - паляцеў**
**Піва - святло, кока-кола - цемра.**

Дарэчы, мастакі такім чынам супрацьпаставілі наша піва «іхнім» буржуйскім спрайту і колe. Як лічыць удзельніца акцыі Ірына Працко, «калі мы працуем над дызайнам - Reebok і Coca Cola адпачываюць!» Вось да чаго, дарагія грамадзяне, даводзіць піва...

**Алена Сіневіч**

## Калі культура на пад'ёме!

**У першы дзень III Рэспубліканскага фестываля нацыянальных культураў начальніца ўпраўлення культуры аблвыканкама Людміла Кадзевіч атрымала Ганаровы знак Міністэрства культуры «За значны асабісты ўклад у развіццё беларускай культуры».**

Узнагароджанне адбылося 2 чэрвеня на прэс-канферэнцыі ў актавай зале Гарадзенскага гарвыканкама. На гэтым прыемныя цырымоніі не скончыліся. Шыкоўны букет і віншаванні з нагоды дня нараджэння атрымала намесніца А.Дубко Марыя Бірукова. Загадчыцы аддзела культуры гарвыканкама Ірэне Кліменка таксама былі падораны кветкі.

**Алена Сіневіч**

1. Сістэма ведаў і правілаў складання і карыстання гербамі. 2. Рабочы пасёлак у Дубровенскім раёне. 3. Духавы музычны інструмент. 4. Сярэдневяковая ручная кідальная прылада - самастрэл. 5. Трохчасткавае аркаднае акно, або арачны праём. 6. Горад у Беларусі. 7. Невялікае культавае збудаванне без асобага памяшкання для алтара. 8. Беларускі скульптар, аўтар помніка Якубу Коласу. 9. Найбольш пашыраны від саней на Беларусі.

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў N19:**

1. Пінакля. 2. Заборскі. 3. Двухсхільны. 4. Капітэль. 5. Партал. 6. Брэст. 7. Эркер. 8. Готыка. 9. Шчучын. 10. Герма. 11. Званіца.

ТЭСТ

# Ці важны для Вас секс?

**Дадзены тэст некалі прапаноўвала маладым людзям мюнхенскае выданне «Брава». Калі ён падасца Вам цікавым, адкажыце на пытанні, і дакладна будзеце ведаць, наколькі важкае значэнне мае ў Вашым жыцці секс.**

**1. Часам кажуць: перш як пакахаць чалавека, трэба пераканацца, што ў сексуальным плане ён акурат для Вас. Што Вы наконт гэтага думаеце?**

а) згодны(-ая) - 6 балаў; б) калі людзі кахаюць адзін аднаго, у іх не будзе праблемаў і з сексам - 3; в) секс усё роўна не самае важнае ў жыцці - 0.

**2. У Вас няма часу, а тут Вас з каханай(-ым) запрасілі на вечарынку. Вы папрасілі сябра (сяброўку) схадзіць туды з Вашай(-ым) каханай(-ым). Потым Вы даведваецеся, што яны там цалаваліся. Ваша рэакцыя на такую навіну?**

а) быць не можа, не веру, што яны маглі нанесці мне такі ўдар - 5 балаў; б) якая подласць, бачыць іх больш не хачу! - 1; в) віна тут толькі мая, бо сам (сама) стварыў(-ла) такую сітуацыю - 4.

**3. Выберыце, не раздумваючы, тры заняткі, якія Вам сапраўды даспадобы:**

а) папляткарыць - 6 балаў; б) камп'ютар - 1; в) адказная справа - 1; г) пасварыцца - 5; д) фліртаваць - 7; е) рамантыка - 4; ж) добра выспацца - 2; з) спрачацца - 3; і) дапамагаць - 2; к) добрыя аўтамабілі - 5.

**4. Знайдзіце менавіта тую групу, дзе змешчаны больш-менш любімыя Вамі колеры:**

а) зялёны, жоўты, аранжавы - 2 балы; б) чорны, чырвоны, сіні - 5; в) ружовы, бежавы, блакітны - 3.

**5. Якія спосабы кантрацэпцыі Вы лічыце найбольш прыдатнымі?**

а) таблеткі - 4 балы; б) прэзерватывы - 3; в) спіралі - 2; г) быць напагатове - 1.

**6. Ноччу Вы любіце спаць...**

а) пры ўключаным святле - 6 балаў; б) у поўнай цемры - 2; в) з адвешанымі шторамі - 4.

**7. Ваша каханая (Ваш каханы) падарыла(-ў) Вам фотаздымак. Дзе Вы будзеце яго захоўваць?**

а) на пісьмовым стале ці на падаконніку - 1 бал; б) у партманэце або ў кашальку - 3; в) пад падушкай - 5.

**8. «Няма нячулых жанчын, ёсць толькі нязграбныя мужчыны». Што Вы думаеце наконт падобнага выказвання?**

а) сказана правільна - 3 балы; б) няправільная думка - 5; в) відаць, нешта ў гэтым ёсць - 2.

**9. Якім чынам Вы карыстаецеся словам «каханне»?**

а) я кажу каханай(-аму) «я цябе кахаю» - 3 балы; б) ніколі ў жыцці не вымавіў гэтага слова - 1; в) я часта выкарыстоўваю гэтае слова, у тым ліку і ў дачыненні да іншых рэчаў - 5.

**10. З кім-небудзь Вы гутарыце наконт былых прыхільнасцяў і сімпатыяў?**

а) толькі з каханай(-ым) - 3 балы; б) ніколі - 1; в) толькі з блізкімі сябрамі (сяброўкамі) - 4.

**11. На Вашу думку, лепей за ўсё атрымліваць інфармацыю па пытаннях, звязаных з сексам, з...**

а) кнігаў - 1 бал; б) часопісаў - 2; в) порнафільмаў - 5; г) размоваў са знаёмымі, сябрамі - 4; д) уласнага досведу - 3.

**12. Вы можаце быць пяшчотным(-ай), калі ў пакоі светла?**

а) не - 1 бал; б) так - 4; в) калі гэтае святло ад свечак - 3.

**13. Ці можаце Вы ўявіць сваю інтымную блізкасць не дома, а недзе яшчэ?**

а) так - 7 балаў; б) не - 1; в) толькі калі паблізу нікога няма - 5.

**14. Вы п'яце алкагольныя напоі?**

а) ніколі - 1 бал; б) выпадкам, магу выпіць піва - 3; в) даволі часта - 5.

**15. На Вашу думку, ананізм - гэта...**

а) замена інтымнай блізкасці - 1 бал; б) карысная фізічная і маральная разгрузка - 3; в) шкодная звычка, хвароба - 2.

**16. Як Вы лічыце, дзе ў арганізме знаходзіцца той «цэнтр», што рэагуе на флірт?**

а) вышэй пояса - 6 балаў; б) ніжэй пояса - 2; в) у галаве - 3.

**17. У якой з пералічаных мясцінаў Вы хацелі б правесці цэлы год?**

а) Сан-Францыска - 6 балаў; б) Іўіса - 4; в) Фларэнцыя - 3.

**18. Калі б чараўнік меў мажлівасць ператварыць Вас на дзень у нейкую жывёлу, каго б Вы абралі?**

а) слана - 4 балы; б) ільва - 6; в) ката (кошку) - 5; г) змяю - 1; д) папугая - 2; е) мядзведзя(-іху) - 3.

**(Працяг будзе)**

# Гараскоп

♈ **Баран (21.03-20.04).** Дзейнічайце планамерна - і на працы Вы дасягнеце даўно чаканых вынікаў.

♉ **Бык (21.04-20.05).** У асабістым жыцці - прыемныя змены. Прыслухайцеся да парадаў сваіх калег на працы.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Не перабольшвайце грандыёзнасць сваіх праблемаў у сям'і, лепей займіцеся іх вырашэннем ужо сёння.

♋ **Рак (22.06-22.07).** Некатарая безразважлівасць на гэтым тыдні Вам не пашкодзіць. Аднак і ў гэтым трэба ведаць меру.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Не варта ісці на повадзе эгаізму, бо праблемаў не пазбегнуць. Верагодныя поспехі на працы.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Пачакайце пакуль што даваць грошы ў пазыку. Кіруйцеся больш інтуіцыяй, чым розумам.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** Сустрэнеце старых знаёмых. Звярніце ўвагу, ці не карыстаюцца Вамі самым беспардонным чынам.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Ненадзейнасць партнёраў і эксцэнтрычныя паводзіны блізкага чалавека могуць вывесці Вас з раўнавагі. Будзьце напагатове!

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Надышоў час рэальна здзейсніць некаторыя планы - асабліва ўдалы тыдзень для фінансавай і навуковай дзейнасці.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Не палохайцеся нестандартных ідэяў, яны прывабяць на Ваш бок шмат саюзнікаў.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Занадта моцнае захапленне ўласнымі пачуццямі можа выклікаць негатыўную рэакцыю партнёра. Лепей надаць больш увагі працы.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Усё складзецца надзвычай паспяхова, калі Вам удасца лёгка і даступна давесці свае думкі да партнёраў.

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі:
230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11.
Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96.
E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскай абласной узбуйненай друкарні.
Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4.
Замова 1 878 Наклад 7 110
Нумар падпісаны да друку ў 16.00 9.06.2000 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам.
Аб'ём - два ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Аксана Бурдзюк, камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей